PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 39 (2054) ГОД XL БЕЛАСТОК 24 ВЕРАСНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Калектыў "Рэаль" падчас фэсту ў Бельску-Падляшскім (пра фэст чытайце на стар. 3 і 10).*

*Мікола Ваўранюк*

## ПАСОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІЯ РАЗМОВЫ

**Дырэктар Бюро па справах нацыянальных меншасцей у Міністэрстве культуры і мастацтва Ежы Бісяк: „Jesteście państwo najbardziej bałaganiarską, w sensie organizowania się, społecznością".**

**Віцэ-маршалак Сейма Уладзімеж Цімашэвіч: „Proszę pana, jako urzędnika państwowego, używać bardziej zrównoważonego języka".**

Гэты дыялог прагучаў у сядзібе Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку ў час візіту на Беласточчыну Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей польскага Сейма. Парламентарыі прыехалі ў Гайнаўку вечарам 7 верасня. Пасля пачлегу ў Беларускім музеі пазнаёміліся з гэтым аб'ектам, наведалі таксама Беларускі ліцэй і сабор Св. Тройцы. Наступным этапам візіту быў Бельск-Падляшскі і наведанне комплексу беларускіх школ: Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Б. Тарашкевіча і „тройкі". Дзень закончылі дзве сустрэчы ў Беластоку: на вуліцы Варшаўскай з кіраўніцтвам БГКТ і на Сураскай з прадстаўнікамі Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай. Кажучы пра балаган сярод беларусаў, дырэктар Бісяк меў на ўвазе між іншым і тое, што не маглі яны абысціся толькі адной сустрэчай, супольнай для ўсіх дзеячаў.

Апошні дзень выязнога пасяджэння Камісіі, гэта дзве сустрэчы ў Ваяводскай управе. Першая з удзелам беларускіх арганізацый ды куратара асветы і выхавання, другая, завяршальная — з ваяводам і прэзідэнтам Беластока.

### Асветныя праблемы

былі, без сумнення, дамінуючымі падчас усіх сустрэч з пасламі.

Беластоцкі куратар Анджэй Калюта, прадстаўляючы сітуацыю школьніцтва сярод беларускага насельніцтва, сказаў, што дзеці маюць добрыя ўмовы для паглыблення сваёй нацыянальнай тоеснасці. Настаўнікі беларускай мовы, у большасці выпускнікі Кафедры беларускай філалогіі ў Варшаве, добра падрыхтаваныя да працы з моладдзю. Маюць магчымасць свой прафесіяналізм павышаць на спецыяльных курсах у Менску. Дапаўненнем урокаў з'яўляюцца хаця б шматлікія конкурсы: песні, дэкламатарскія, тэатральныя. Паляпшаецца матэрыяльная база школ. Пасли маглі ўбачыць будаваную школу ў Кляшчэлях (па дарозе ў Гайнаўку), новы будынак ліцэя ў Гайнаўцы і толькі што здадзеную ў карыстанне гімнастычную залу „тройкі" ў Бельску. На інвестыцыі ў мясцовасцях, дзе жывуць беларусы апошнім часам адводзяцца значныя сумы, казаў куратар, прыводзячы дакладныя працэнты ад агульнага бюджэту Беластоцкай куратoрыі асветы і выхавання. Старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа засумняваўся аднак ці можна тут улічваць новабудаваныя школы ў Міхалове, Боцьках і Балестах, дзе пра навучанне беларускае мовы ніхто і не чуў. Вапа пакрытыкаваў Міністэрства нацыянальнай адукацыі за брак поспехаў у працах двухбаковай польска-беларускай камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў.

Васіль Ляшчынскі, дырэктар Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім і адначасова старшыня грамадскай Камісіі па рэформе беларускага школьніцтва, звярнуў увагу на неабходнасць друку новых падручнікаў па беларускай мове менавіта ў Польшчы, бо тыя з Беларусі не адпавядаюць нашай рэчаіснасці. Навучанне роднай мовы павінна адбывацца не толькі на ўроках граматыкі і літаратуры, але і музыкі, гісторыі мастацтва ці грамадазнаўства. Трэба таксама ўвесці заняткі па гісторыі і геаграфіі Беларусі. Веды пра найбліжэйшага суседа павінны быць цікавыя таксама польскай моладзі. Трэба скончыць таксама з абавязкам пісьмовых заявак бацькоў, якія хочуць, каб іх дзіця вывучала беларускую мову. Наогул, у мясцовасцях, дзе беларусы складаюць прынамсі 50% насельніцтва, трэба ўвесці абавязковае навучанне беларускай мове ўсіх вучняў. Ляшчынскі падбаў таксама пра свой панадворак, падкрэсліваючы неабходнасць далейшай разбудовы зацеснага комплексу „тройкі" і Ліцэя імя Тарашкевіча.

Куратар Калюта пацвердзіў, што плануецца павелічэнне гэтых школ. А прадстаўнік міністэрства Меланія Собаньска-Бандарук сказала, што пасля канчатковай дапрацоўкі праграм навучання будуць патрэбныя толькі аўтары падручнікаў і грошы, грошы, грошы...

### Музей і асяродак беларускай культуры

ў Гайнаўцы выклікаў найбольш спрэчных пытанняў. Ніхто не ведае, як забяспечыць яго ўтрыманне ў будучыні.

Сёння сітуацыя выглядае так, што ўласнікам пляца з'яўляецца Беларускае таварыства, а ўласнікам аб'екта —

*Працяг на стар. 5*

*Аляксандр Максімюк*

## Зброя

*На пачатку было Слова*, а побач яго зараз з'явілася Зброя. Камень, дубіна, страла, дзіда, меч, стрэльба, аўтамат, амуніцыя дум-дум, ракеты зямля-паветра і г.д. Зброя, звычайна, прысутнічае ў нашым жыцці — падабаецца каму гэта, ці не.

Калі больш дэталёва прыглядзецца гэтай прысутнасці, то заўважым, што ёсць тут некаторая дыферэнцыяцыя: паляўнічая зброя прыкончвае звярыну ў лясах, зброя „ўдзельнічае" ў злачынствах ды ўрэшце... зброю можа мець звычайны грамадзянін з мэтай, напрыклад, самаабароны. Не згадваю тут, зразумела, пра войска, паліцыю і спецыяльныя службы, у распараджэнні якіх маецца зброя з увагі на сам характар гэтых сектараў. На пачатак, аднак, невялікі прыклад.

У мясцовасці Ч. (гміна Юхнавец-Касцельны) дзяўчына зайшла да сваіх пляменнікаў. Пайшоў з ёю хлопец, з якім яна пазнаёмілася ў Беластоку. За абедам неяк атрымалася размова пра зброю — пачаў яе бацька гаспадара. Верагодна, што і беластоцкі хлопец нейкую ўяву пра зброю меў, бо ў ходзе далейшых падзей паліцыя выявіла, што меў ён дачыненне з праваахоўнымі органамі. Але мы засяродзімся на абедзе. У разважанні пра зброю ўключылася і гаспадыня — адным словам, кожны мог на гэтую тэму нешта сказаць. Гаспадар доўгія гады займаўся паляўніцтвам і зброю меў у хаце. Гаспадыня дастала з-пад канапы паляўнічую дубальтоўку і зразу ўзялася за дэманстрацыю. Пакуль нехта паспеў апратэставаць гэты крок, раздаўся выстрал... Стрэльба была заранжана. Беластоцкі хлопец падарваўся з крэсла і сказаў прыблізна: „Што ты мне зрабіла", але былі гэта апошнія яго словы, бо ў наступную хвіліну зваліўся ён на падлогу і заліў крывёю ўвесь пакой. „На якую халеру брала ты стрэльбу", — пракаментаваў гэта гаспадар-паляўнічы. Справу гэту актуальна даследуе беластоцкая раённая пракуратура — для гаспадыні з Ч., якая такім нефартунным і неасцярожным чынам паказвала стрэльбу, паграхае ад 6 месяцаў да 5 гадоў турмы за ненаўмыснае спрычыненне смерці.

Пра колькасць паляўнічай зброі запытаў я ў прэсавага прадстаўніка Ваяводскай камендатуры паліцыі ў Беластоку. Падінспектар Кшыштаф Каспшак паведаміў, што на абшары Беластоцкага ваяводства знаходзіцца звыш 6 700 адзінак зарэгістраванай паляўнічай зброі (*адзінка зброі* — спецыяльны тэрмін, якім паліцыя называе прадмет гэтага даследавання — А.М.).

*— Гэтыя ды іншыя даныя* — засцерагаўся прэсавы прадстаўнік, — *прыблізныя, але даюць яны ўяву пра памер самой з'явы. Варта тут дапоўніць тое, што колькасць паляўнічай зброі неабавязкова адпавядае колькасці саміх паляўнічых, бо ў аднаго чалавека найчасцей некалькі адзінак тае ж зброі. Лік гэты трэба было б падзяліць праз два або тры. Пра паляўнічую зброю можна дадаць і тое, што яна надзвычай паспяховая ў прымяненні. У гэтую катэгорыю залічваюцца, напрыклад, стрэльбы з падзорнымі трубамі: дальнабойныя і надзвычай дакладныя пры нацэльванні і выстрале.*

*Працяг на стар. 8*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Занадта кароткае адно чалавечае жыццё, каб паспець і на панскі бізун, і на цяжкі каваны бот дыктатара, забыўшыся смак свабоды адчуць і ацаніць. Міжволі кожны глыток вольнага паветра ў горле захрасае, міжволі нагляд не наперад, а назад цягнецца: праз дзядоў і бацькоў прывучаныя не верым! Хто іх, паноў, старых і новых, разбярэ? — Сёння Незалежнасць абвясцілі, а заўтра могуць, адно за тое, што сведкамі гэтага былі, на Калыму адправіць. Было ж...*

*Можна вытлумачыць, апраўдаць гэтую амаль усеагульную абыякавасць да лёсу сваёй краіны, да лёсу яе незалежнасці: прызвычаіліся, сцярпеліся за некалькі стагоддзяў са сваёю няволяю. Што ўжо што, а хлеб і вада, няхай сабе і ў клетцы, а скрозь былі гарантаваныя, сёння ж...*

*Сёння трэба гаварыць свае ўласныя словы, рабіць свае ўласныя ўчынкі. Гэта няпроста. На гэта трэба асмеліцца. Асмеліцца нават тады, калі неадольна пацягне назад. У звыкласць. Да звыклай безадказнасці.*

*Беларусь, н-р 7*

А большасць выбрала ж безадказнасць!

* * *

*23 жніўня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з вялікай групай вучоных, работнікаў народнай адукацыі і вышэйшай школы, дзяржаўнага апарату. Адбылася прафесіянальная размова аб шляхах удасканалення народнай асветы, дзяржаўнай падтрымкі развіцця навукі, культуры. Прэзідэнт падкрэсліў, што свой палітычны выбар, сваю гістарычную і дзяржаўную арыентацыю беларускі народ пераканаўча і беспаваротна вызначыў на майскім рэферэндуме. На гэты выбар павінны арыентавацца ўсе дзяржаўныя структуры. У адваротным выпадку дзяржслужачыя павінны сумленна пакінуць службу па сваіх палітычных перакананнях.*

*Звязда, н-р 154—155*

Гісторыкі, арыентуючыся на выбар — беспаваротны — народу, ужо вымушаныя напісаць гісторыю Беларусі так, як яе бачыць прэзідэнт Лукашэнка. Навукоўцам трэба будзе стаць літаратарамі і дасканаліць „абэцэдаршчыну".

* * *

*Samoloty NATO wsparte przez artylerię atakowały serbskie pozycje... Podczas jednego z nalotów zginęło 12 serbskich cywilów... To było piękne. Po drugiej fali nalotów muzułmanie z Sarajewa zaczęli wystawiać na ulice stoliki i krzesła, wynosili butelki wina. Naloty mają ulżyć cywilnym ofiarom wojny i zapewnić pokój w byłej Jugosławii,* — піша

*Gazeta Wyborcza, nr 202*

Ці можна быць дасканальшая форма крывадушнасці?

* * *

*Zbrodnia w Rwandzie dokonała się w kraju, który uważany był za najbardziej religijny w całej Afryce, w kraju, w którym liczba nawróceń była tak wielka, że mówiono wręcz o cudzie. Rwandyjskie ludobójstwo dokonało się u świątynnych ołtarzy. Kościoły, do których ludzie uciekali szukając ratunku, stały się dla nich więzieniem i grobem. Wielu duchownych, zamiast być pocieszycielami, pasterzami, okazało się katami. Zabójcy i ofiary wierzyli w tego samego Boga, który zabraniał im zabijać.*

*Gazeta — Magazyn, nr 131*

* * *

*Określenie „scena polityczna" weszło do naszego języka nie wiadomo kiedy i dlaczego. Pasuje do niektórych polityków jak pięść do nosa. Scena zakłada jakiś dramat, literaturę, kulturę, reżyserię, scenografię, jakiś kunszt, zwłaszcza aktorów. Tymczasem bywa, że oglądamy sceny żałosne, zagrania na poziomie trupy podwórkowej, a nie sceny narodowej. Tekst własny, muzyka kolegi, reżyserii żadnej, wykonanie beznadziejne — nic dziwnego, że i recenzje są chłodne. Jeżeli to jest scena, to repertuar zbyt często przypomina farsę.*

*Polityka, nr 35*

Густ публікі мяняецца. Яшчэ нядаўна модная была драма, пасля камедыя, а цяпер фарс. Акцёры толькі дапасаваліся да патрабаванняў гледачоў „сцэны". Беласточчына з'яўляецца гэтага найлепшым прыкладам.

* * *

*Скажу і пра рэферэндум. Я яшчэ не маю права голасу і таму на рэферэндуме не галасаваў, але ніяк не магу зразумець, як можна выракацца сваёй Радзімы. Бо, аб'яднаўшы чатыры пытанні ў адно, вось што атрымліваецца: „Ці згодны Вы, што Ваша радзіма — Беларусь?"*

*Прыйдзе час, калі адыдзе саветызаванае пакаленне і прыйдзе новае, выхаванае беларускім адраджэннем і нацыянальнай ідэяй, і тады ўваскрэсне Беларусь,* — піша Кастусь Зельдзін з Віцебска. Яму 16 гадоў.

*Наша слова, н-р 33—34*

* * *

*Spędziłaś urlop z interesującym brunetem. Miałaś orgazmy jak trzęsienie ziemi. Przysięgał, że jesteś kobietą jego życia. Teraz nie dzwoni, a ty tęsknisz. Jeżeli urlopowy partner nie odzywa się, nie wpadaj w czarną rozpacz. Po prostu szukaj pocieszenia w innych ramionach,* — раіць нямецкі часопіс на польскай мове.

*Claudia, nr 9*

Ніўскае Сэрцайка такой еўрапеізацыі яшчэ не прапануе сваім паклоннікам.

* * *

*Podręcznik Zbigniewa Lwa-Starowicza i Kazimierza Szczerby „Nowoczesne wychowanie seksualne" zdaniem biskupa Tadeusza Pieronka to „instruktaż do dewiacji seksualnych", „uczy młodzież perwersji", „proponuje całkowity liberalizm moralny", „młodzież nie powinna dostać go do ręki", „jest on naruszeniem praw rodziców katolickich".*

*Polityka, nr 35*

Добра, што ёсць яшчэ каму бараніць наш край ад усялякіх лібералізмаў. Аднак Хамеіні быў першы.

* * *

*Z badań CBOS wynika, że 41 proc. kobiet jest bitych przez mężów. Liczba zgłoszonych gwałtów w ciągu ostatnich lat wzrosła o 40 proc. Specjaliści uważają, że jest ich w rzeczywistości dziesięciokrotnie więcej.*

*Wprost, nr 36*

Што за статыстыка — у такім хрысціянскім краю!?

# З мінулага тыдня

**Сеймавая Камісія нацыянальных і этнічных меншасцей правяла выязное пасяджэнне на Беласточчыну з мэтай вывучэння праблем беларускай нацыянальнай меншасці** *(пра знаходжанне Камісіі ў нашым рэгіёне чытайце на стар. 1 і 5).*

**Управа рэгіёна „Салідарнасці" ў Беластоку ўхваліла пратэст супраць указа прэзідэнта РБ Аляксандра Лукашэнкі аб прыпыненні дзейнасці Свабодных прафсаюзаў Беларусі і супраць рэпрэсіраванню прафсаюзных дзеячаў.** Беластоцкія дзеячы „Салідарнасці" звяртаюць увагу, што згаданы ўказ пярэчыць Канвенцыі н-р 87 Міжнароднай арганізацыі працы, і заклікаюць урад і прэзідэнта РП накіраваць дыпламатычным шляхам пратэст супраць указа А. Лукашэнкі. Беластоцкі рэгіён заявіў гатоўнасць дапамагчы беларускім прафсаюзным дзеячам, а нават стварыць на Беласточчыне інфармацыйны цэнтр Свабодных прафсаюзаў Беларусі.

**Па запрашэнні Фонду Стэфана Баторыя ў Польшчы пабывала дэлегацыя прадстаўнікоў пазаўрадавых арганізацый з Беларусі.** Падчас знаходжання ў Беластоку госці наведалі нашу рэдакцыю, дзе сустрэліся з дзеячамі Беларускага саюза, а таксама пабывалі ў падрыхтовачным цэнтры Фонду развіцця лакальнай дэмакратыі, дзе цікавіліся дзейнасцю Праграмы „Дыялог".

**Аляксандр Квасьнеўскі — кандыдат на пост прэзідэнта РП — наведаў Беласточчыну.** Лідэр Саюза левых дэмакратаў сустрэўся са сваімі прыхільнікамі ў Сямяцічах, Мілейчыцах, Кляшчэлях, Гайнаўцы, Беластоку і Бельску-Падляшскім, дзе быў госцем беларускага фэсту БГКТ *(пра фэст пішам на стар. 3 і 10).*

**Кшыштоф Вольфрам — інжынер лясніцтва, пасол Сейма ад Уніі Вольнасці з Беластока — стаў лаўрэатам прэміі Фонду імя Біндзінга Шан-Ліхтэнштайн за заслугі для аховы асяроддзя.** Такім чынам была ўзнагароджана яго ідэя стварэння Зялёных лёгкіх Польшчы — такога добраўпарадкавання паўночна-ўсходняй часткі краіны, каб не пагражала яно натуральнаму асяроддзю. Цікавасць да ідэі К. Вольфрама праявілі таксама Беларусь, Літва, краіны Прыбалтыкі і Калінінградская вобласць РФ.

**Зянон Пазьняк з-за адсутнасці пашпарта не прыме ўдзелу ў міжнароднай канферэнцыі, якую ладзіць Люблінскі каталіцкі універсітэт.** Арганізатары мерапрыемства, на якое запрошаны палітыкі і вучоныя з усяго свету, папрасілі лідэра БНФ выступіць з аналізам цяперашняга становішча ў Беларусі. Пасля скасавання прэзідэнтам РБ дыпламатычных пашпартоў у дэпутатаў Вярхоўнага Савета і членаў Канстытуцыйнага Суда, з атрыманнем звычайных замежных пашпартоў у апазіцыянераў вынікнуць складанасці, бо да іх будуць ставіцца як да носьбітаў дзяржаўнай таямніцы (на закрытых пасяджэннях сесіі дэпутаты прымалі ўдзел у абмеркаванні ваеннай дактрыны).

**У польскім Генеральным консульстве ў Гродне ладзяцца цыклічныя культурныя мерапрыемствы пад агульнай назвай „Чацвер у консульстве".** Апошнім часам была адкрыта выстаўка нумізматычнага экслібрыса.

**У Гайнаўцы створана каталіцкая парафія ў імя святых Кірылы і Мяфодзія.** „Патроны касцёла паказваюць на экуменічны характар новай супольнасці", — сказаў дэкан кс. Альфонс Трахімяк. Ва ўрачыстасцях заснавання новай парафіі прымалі ўдзел прадстаўнікі праваслаўнага духавенства і самаўрадавых улад горада.

**У Сувалках адбыліся лёгкаатлетычныя спаборніцтвы маладзёжных каманд з Польшчы, Беларусі і Украіны.** Пераможцамі аказаліся юныя спартсмены з Польшчы (297 балаў). Другое месца заваявалі лёгкаатлеты з Украіны (290,5 бала), а прадстаўнікі Беларусі апынуліся на трэцім месцы (180,5 бала).

## Праз тыдзень у „Ніве"


> Сакрат Яновіч пра сустрэчу інтэлектуалаў у Ракаве.

> Юры Баена пра культурную спадчыну Беласточчыны.

> Мікола Ваўранюк пра канікулы ў Рыме.


# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Праігнараваная сесія

У пачатку верасня пачала работу XVIII сесія Вярхоўнага Савета старога склікання, паколькі новы парламент яшчэ поўнасцю не выбраны, а дадатковыя выбары адбудуцца 29 лістапада. У ходзе сесіі дэпутаты адчулі адмоўнае стаўленне прэзідэнта і ўрада да работы народных абраннікаў, якое праявілася між іншым у тым, што члены ўрада не выступілі на сесіі са справаздачамі, а парламентарыі не атрымалі належнай ім зарплаты. Не зважаючы на неспрыяльную атмасферу, дэпутаты працягвалі заканатворчую дзейнасць. Напрыклад, імі былі ўнесены змяненні ў закон аб выбарах, абмяркоўваліся праекты законаў аб грамадзянстве і аб тлумачэннях асобных артыкулаў Канстытуцыі.

### Пазіцыі прэзідэнта і парламента

На сесіі Вярхоўнага Савета выступіў кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Леанід Сініцын, які давёў да ведама дэпутатаў канцэпцыю першай асобы дзяржавы на работу сесіі. Ён адзначыў, што раней паміж прэзідэнтам і парламентам была дамоўленасць, што Вярхоўны Савет будзе збірацца толькі ў экстранных сітуацыях. Цяперашнюю сесію прэзідэнт лічыць неабгрунтаванай палітычнай дэманстрацыяй. Аляксандр Лукашэнка згодны супрацоўнічаць толькі з новаабраным парламентам, а з дэпутатамі старога склікання гатовы сустрэцца, але толькі па-за межамі сесіі. З гэтым не пагадзіўся старшыня ВС Мячэслаў Грыб. Дэпутаты прынялі спецыяльную палітычную заяву, у якой адзначаецца, што са жніўня 1994 года прэзідэнтам, з перавышэннем кампетэнцыі, прынята некалькі дзесяткаў указаў, якія супярэчаць Канстытуцыі, уціскаюць палітычныя і эканамічныя правы мільёнаў грамадзян.

### Указ у судзе

Старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб звярнуўся ў Канстытуцыйны Суд з прапановай разгледзець законнасць двух пунктаў прэзідэнцкага ўказа н-р 336, якія датычаць статусу дэпутатаў розных узроўняў і прафсаюзаў. У заяве спікер парламента звярнуў увагу, што згодна з 79 артыкулам Канстытуцыі права прыпыняць дзеянне законаў мае выключна парламент, а не прэзідэнт. На патрабаванне М. Грыба Канстытуцыйны Суд адклікнуўся вельмі аператыўна і нягледзячы на тое, што спікер аспрэчваў толькі два пункты ўказа, суддзі прынялі рашэнне праверыць канстытуцыйнасць указа ў цэлым.

### Ландсбергіс супраць Лукашэнкі

Галоўнае ўпраўленне Грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта паведаміла, што літоўская партыя Саюз Айчыны, якую ўзначальвае экс-прэзідэнт Літвы Вітаўтас Ландсбергіс, прыняла рашэнне па аказанні грашовай дапамогі Беларускаму народнаму фронту ў палітычнай дзейнасці, накіраванай на ўзмацненне апазіцыі беларускім уладам і асабіста прэзідэнту Лукашэнку. На думку прэзідэнцкіх чыноўнікаў, можна спадзявацца сумесных з БНФ калёквіумаў, сімпозіумаў і семінараў па выпрацоўцы адзінай стратэгіі і тактыкі супрацьстаяння існуючым уладам і прэзідэнтам Беларусі і Літвы. Не выключана, што партыя Ландсбергіса будзе аказваць народнафронтаўцам дапамогу ў чарговых выбарах у Вярхоўны Савет, якія адбудуцца сёлета 29 лістапада.

### Пікетаванне прэзідэнцкага палаца

Члены Саюза афіцэраў запасу і іх жонкі арганізавалі пікетаванне рэзідэнцыі прэзідэнта Беларусі. Адна з галоўных прычын, што прымусіла іх звярнуцца да гэтай акцыі — адсутнасць кватэр у былых ваенных і іх сем'яў. Абурэнне пікетчыкі выказвалі і наконт закона аб грамадзянстве. З пікетчыкамі сустрэўся прэзідэнт РБ, які сказаў, што падзяляе іх беды, але не можа неадкладна даць жыллё па аб'ектыўных прычынах.

### Закрыць „Свабоду"!

Прэс-служба Патрыятычнага руху Беларусі выказала падзяку рэдакцыі газеты „Свабода" за публікацыю матэрыялаў, якія даказваюць факт таго, што ў снежні 1991 г. народны дэпутат Аляксандр Лукашэнка сапраўды не галасаваў за ратыфікацыю пагаднення аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Разам з тым ПРБ звярнуў ўвагу адпаведным органам на артыкул Сяргея Дубаўца „Варагі" ў той жа газеце. „Аўтар артыкула, — сцвярджае прэс-служба ПРБ, — сын былога міліцэйскага палітрука, які зараз жыве ў Вільні, з азвярэлай злобай, якая даходзіць да клінічнага стану, піша пра рускіх, татараў, яўрэяў і іншых т.зв. варагаў, якія нібыта незаконна жывуць у Беларусі і быццам ад іх усё зло, якое вымушаны цярпець беларускі народ. Прапаведаванне спадаром Дубаўцом нацыяналізму, не што іншае, як антыканстытуцыйныя, проціпраўныя дзеянні, накіраваныя на распальванне міжнароднай варожасці". У сувязі з гэтым ПРБ паставіла пад сумненне пытанне легітымнасці газеты „Свабода", якая, на яго думку, зневажае Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь.

# ЗАКУЛІССЕ БЕЛАРУСКАГА ФЭСТУ

У нядзелю 10 верасня жыхары Бельска падаставалі з шафаў найпрыгажэйшую вопратку, жанчыны заўчасу пазавівалі „андуляцыі", мужчыны гладка пабрыліся і былі гатовыя сустракаць славутага госця. У Бельск на трэцюю гадзіну пасля поўдня прыехаў выбарчы аўтобус кандыдата на пост прэзідэнта Аляксандра Квасьнеўскага. Спецыяльна да гэтага візіту ў горадзе падрыхтавалі беларускі фэст. Пачаўся ён, што рэдка ў нас бывае, пунктуальна. Першая яго частка праходзіла таксама надзвычай гладка, выканаўцы праспявалі па адной песні, каб хутчэй саступіць месца на сцэне палітыкам. І хаця Квасьнеўскі зазначыў, што ён у цяжкай сітуацыі, бо не будзе ні спяваць, ні танцаваць, то менавіта ён ды яго калега Цімашэвіч дасталі найбольшыя воплескі.

Палітыкі сказалі, што ім трэба было, раздалі кучу выбарчых матэрыялаў: лістоўкі, плакаты, планы ўрокаў у школе з партрэтам кандыдата і паехалі ў Беласток, дзе чакала іх наступная сустрэча, але ўжо з менш прыхільнай публікай. У Бельску, хаця сабралася столькі народу, што не было шчэ на ніводным афіцыйным свяце, толькі два маладзёны адкрыта дэманстравалі сваю непрыязь да *посткамуны*. Менавіта, выступленні палітыкаў слухалі яны з выцягнутымі ўгару ружанцамі, бо *тут няма Бога*. Рашучая большасць публікі напэўна без ніякіх хістанняў пагадзіліся б са словамі адной спявачкі: *Я для яго спявала б, нават каб ён быў гітлераўцам, такі ён прыгожы.*

Пасля ад'езду выбарчага аўтобуса на сцэну вярнуліся выканаўцы. Канцэрт закончыла вядучая Валянціна Ласкевіч. Падзякавала ўсім спонсарам, якія дапамагалі ў арганізацыі фэсту. *На жаль, хачу зазначыць, што ні ў мінулым годзе, ні сёлета Управа горада Бельска-Падляшскага не дала на беларускі фэст нават залатоўкі,* — казала сакратар ГП БГКТ. — *Ці вы хочаце, каб у будучыні тут праходзілі такія фэсты?* Пытанне было чыста рытарычнае. У адказ пасыпалася бура воплескаў і падняўся адабральны гул: уууу...!



*Аляксандр Квасьнеўскі ў Бельску-Падляшскім.*

* * *

Аб арганізацыі беларускага фэсту гаварылі ў бурмістра Андрэя Сцепанюка 21 жніўня. У сустрэчы прымалі ўдзел, апрача гаспадара, яго намеснік Яўген Беразавец, дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук, старшыня Гарадской рады Васіль Ляшчынскі, старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі, сакратар ГП Валянціна Ласкевіч, пасол Саюза левых дэмакратаў з Беласточчыны Станіслаў Малішэўскі і прадстаўнікі бельскага СЛД Ежы Шунэйка і Аляксандр Шыманскі.

— Старшыня Сычэўскі прадставіў прапанаваную праграму фэсту, — расказвае Васіль Ляшчынскі. — Падкрэсліў ён, што ў Бельску вельмі патрабуючая публіка і апрача мясцовых калектываў трэба ёй паказаць нешта спецыяльнае. Запрапанаваў ён, што гэтым „нечым спецыяльным" можа быць гурт „Гарошкі" з Менска. Пасол Малішэўскі спытаў пра кошт імпрэзы, на што Янка Сычэўскі адказаў: „Пры вельмі ашчадным гаспадаранні грашамі — дзесьці 35 мільёнаў". У тым, на „Гарошкі" пайшло б дваццаць. На гэта ўсе змоўклі і паглядзелі на бурмістра. Урэшце Малішэўскі спытаў: „Panie burmistrzu, co pan na to?" Андрэй Сцепанюк адказаў, што такой сумы даць не можа, бо не можа ўтрымліваць менскага калектыву на працягу некалькіх дзён, хаця той выступіць у Бельску дзесьці з паўгадзінным канцэртам. І важнейшая справа, не можа ён даваць гарадскіх грошай на выбарчую кампанію аднаго з кандыдатаў на прэзідэнта. Але можа дафінансаваць мерапрыемства сумай 5—10 мільёнаў. Я ў сваю чаргу, сказаў, што як старшыня Бельскага аддзела БГКТ маю на рахунку 5 мільёнаў, але яны ў банку, які абанкруціўся і не ведаю, ці змагу іх адтуль дастаць. На гэтым мы і разышліся.

29 жніўня бурмістр Бельска атрымаў тэлефанаграму такога зместу: „Dotyczy Festynu Ludowego w Bielsku Podlaskim. W związku z brakiem stanowiska Zarządu Miasta w sprawie dofinansowania Białoruskiego Festynu Ludowego w Bielsku Podl. w dniu 10.09.1995 r. Zarząd Główny BTSK wstrzymuje przygotowania organizacyjne imprezy. Do wiadomości: Wojewoda Białostocki. Podpisał: Przewodniczący BTSK Jan Syczewski".

— Пасля гэтага выступіла да мяне бельскае СЛД з просьбай аб дазволе сарганізаваць „Festyn Ludowy", — кажа бурмістр Андрэй Сцепанюк. — На ім мелі прэзентавацца як беларускія, так і польскія калектывы.

Аднак у кіраўніцтве Беларускага таварыства справу перадумалі і рашылі, усё-такі, арганізаваць беларускі фэст. Бельскі аддзел таварыства пра рашэнне сваёй вярхоўнай улады нічога не ведаў.

— Я дафінансоўваў мінулагоднюю „Бардаўскую восень", конкурс беларускай песні для школьнікаў, кніжку а. Рыгора Сасны і Дарафея Фёніка пра гісторыю Праваслаўнай царквы ў Бельску, юбілей „Васілёчкаў", — расказвае Андрэй Сцепанюк, які ніколі не цураецца беларускай мовы ў публічных выступленнях. — Даю грошы на дзейнасць „Маланкі" і „Васілёчкаў", узнагароды лаўрэатам Алімпіяды беларускай мовы фундаваў я нават не з гарадскога бюджэту, а з касы бурмістра. А хтосьці хоча бачыць мяне ворагам беларушчыны. У мінулым годзе даць грошы на фэст я не мог, бо яшчэ бурмістрам не быў. У гэтым, з прычыны яго выбарчага характару і адназначна палітычнага накірунку, мне нават не выпадала. БГКТ ніколі не звярталася афіцыйна, на пісьме, да ўладаў Бельска, каб унесці іхнія мерапрыемствы ў план гадавога бюджэту.

**Мікола Ваўранюк**
**фота Сяргея Грынявіцкага**

# ЛЮДЗІ ЯК КАМЕННЕ

**— Прывыклі ўжо і да гэтага пекла. Апошняе, найгоршае сцярпім. Людзі ў нас як каменне, — паўтараюць жыхары Баброўнік, што ў Гарадоцкай гміне. Са жніўня мінулага года ў Баброўніках ідзе пабудова гранічнага перахода.**

Нават у адлеглай на два кіламетры Ярылаўцы чуваць скрыгат пабудовы, гул цяжкіх машын.

— Там рэнцісты адны, хто ж іх абараняць будзе? Каму яны патрэбны? Як памруць, то жонд скарыстае, бо рэнтаў плаціць не трэба, — гавораць са спачуваннем суседзі-вяскоўцы.

— Што там за гаспадары былі! Па два статкі кароў, коней хадзіла. А цяпер на ўсю вёску адна карова. Летам за малаком да нас прыязджаюць, — разважае пенсіянер з Ярылаўкі.

* * *

Зараз Баброўнікі падзелены велізарным раскопам, што цягнецца за васемсот метраў.

Кіраўнік пабудовы Здзіслаў Дабравольскі расказвае пра інвестыцыю, будучыню.

— Усё будзе па-еўрапейску: прыбіральні, крамы, рэстараны. Людзей найбольш здзіўляе інфармацыя пра віядук, які спалучыць абодва бакі вёскі.

— Tiry będą jeździły dołem, a mieszkańcy bezpiecznie będą chodzić wiaduktem, — чую некалькі слоў паяснення.

У вёсцы 25 пенсіянераў. Цяжка ўявіць іх, старых, хворых, штораз перасякаючых мост.

— Nie będzie tych, to będą inni, — заяўляе спадар Здзіслаў у адказ на мае здагадкі.

— Адкуль бярэце рабочых?

— Патрэбныя нам спецыялісты, таму ў большасці працуюць жыхары Беластока. Ёсць і некалькі мясцовых.

— Ja to z Łomżyńskiego, — чую ад маладога работніка. На Беласточчыне ён упершыню.

— Najbardziej zszokował mnie taki starzec, co wyszedł z sierpem żąć żyto, — смяецца рабочы.

Апрача фальклору, незабыўнае ўражанне на маім субяседніку пакінулі чалавечыя косці, выкапаныя ў час раскопкаў.

* * *

У вёсцы балота па калена. Ледзь пашчасцілася мне ўцячы на панадворак перад паліваючым дарогу грузавікам.

— Гэта ад пылу. Затое ўсе платы і панадворкі „атынкаваны". Без гумовых ботаў тут не абыдзешся, — камянецца жыхар Беластока, які на некалькі дзён прыехаў у родную вёску.

— У вёсцы такі вэрхал і бразгатня, што тут не адпачнеш, — дадае дзядзька.

— Я нават пра свята забыла, — наракае жонка солтыса. — Мусіш жыць, бо куды пойдзеш? Што я буду гаварыць? Прывыклі!



У прадуктова-прамысловай краме пустэча. Час ад часу толькі прыходзяць за півам.

— У нас сёння свята, — тлумачаць дзядзькі з чырвонымі насамі.

— Хата, праўда, папэнкала, тынк адсунуўся, — гаворыць прадаўшчыца пра стройны, двухпавярховы, белы дом на ўсю вёску, у якім размясцілася крама.

— Людзі кажуць, што і ў іх хаты пэнкаюць ад цяжкіх грузавікоў, — дадае кабета за прылаўкам.

— Я то „Ніву" ведаю, — успамінае малады ўласнік крамы. — Калісь я быў тут вядомым гаспадаром. Меў сто дваццаць гектараў зямлі, сорак кароў, васемсот вепрукоў. У „Ніве" мяне Віктар Рудчык апісваў. А цяпер? Паверыў сябру і паручыўся за ім у банку, калі той браў крэдыт. Так і паламаў зубы на сяброўстве і дабрыні.

У голасе адчуваецца жаль і безнадзейнасць. Насупраць крамы відаць акуратны, дагледжаны панадворак.

— Хадзіце ў хату, калі вы з „Нівы", — запрашае пенсіянер з прыгожым, адухаўлёным тварам. Мой субяседнік — самародны артыст, маляр і разьбяр.

— Дрыжаць хаты, пэнкаюць сцены ад безупыннага руху грузавікоў. Але мы ўсё выдзержым. О! Нашыя людзі як каменне, усё сцярпяць і стрываюць. Колькі мы ўжо пісалі ўсякіх пратэстаў. І журналісты пісалі. У адказ толькі маўчанне, — наракае пенсіянер.

— Акна ў хаце не адкрыеш, бо пыл вокамгненна на ўсё кладзецца. Пра *пране* то і згадваць не варта, усё на панадворку за міг сшарэе, — чую ад маці і дачкі на лавачцы ў глыбіні панадворка.

— Маглі б вазіць пясок за „Балота", а не праз вёску, — абураецца іншая пенсіянерка. — А калі гэты пераход пабудуюць, то нам карысці ніякай не будзе. Нават за прыбіральшчыц на работу не возьмуць.

— Дым выядае вочы, — адказвае на пытанне як ім жывецца чарговая пенсіянерка. — Іду да сяброўкі, бо ў нас на лавачку не выйдзеш. Іду ў суседнюю вёску!

* * *

У чэрвені г.г. жыхары Баброўнік накіравалі пісьмовы пратэст ваяводу. У адказ ім напісалі: „Szanowni mieszkańcy! Przejście graniczne to inwestycja o międzynarodowym znaczeniu. W/z z tym prosimy was o wyrozumiałość".

Ніхто аднак і не падумаў, што за „wyrozumiałość" і цярплівасць трэба адплаціць людзям. Неўзабаве плануецца пракласці тут водаправод. Жыхары будуць плаціць як і іншыя. Большасць адказалася, пачуўшы пра кошты.

— Ніхто нас па-партнёрску не ўспрымае. Час ад часу нехта яшчэ нам кажа, што мы — гаспадары гэтай мясціны. Але гэта гучыць як брыдкі жарт, — гавораць жыхары Баброўнік.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

## Ці Фелікс быў беларусам?

Падчас сустрэчы беларускіх і польскіх гісторыкаў у Варшаве 30 жніўня г.г. да прафесара Ежы Тамашэўскага як даследчыка сучаснай гісторыі Беларусі было накіравана пытанне: „Адкуль у беларусаў такія сімпатыі да камунізму?" Прафесар Тамашэўскі адказаў: „Гісторыя фарміравання камуністычнага ладу пачалася ад кастрычніцкай рэвалюцыі, а ў тых падзеях мы, палякі, можам пахваліцца не малымі дасягненнямі. Успомню хаця б Фелікса Дзяржынскага, Генрыка Ягоду, Юльяна Мархлеўскага, каб паказаць, што мы, палякі, мелі свой, нашмат больш, чым беларусы, уклад у замацаванне камунізму ў Еўропе". Неспадзявана, пачуўшы гэтыя словы, зарэагаваў малады гісторык з Менска, выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які заявіў: „Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі быў беларусам", што палякі ўспрынялі смехам і дэкларавалі гатоўнасць аддаць Фелікса беларусам на ўласнасць. Адчувалася ў іх голасе шчырыю волю, калі гаварылі, што ніякіх прэтэнзіяў не будуць мець, калі прозвішча крывавага ката Расіі і Беларусі будзе атаясамлівацца з беларускай нацыянальнай традыцыяй.

Не ведаю навошта польскі шляхціц, а пасля бальшавіцкі тэрарыст, забойца пару соцень тысяч ні ў чым невінаватых людзей, патрэбны беларускім камуністам як іх нацыянальны герой. Помнікі крываваму Феліксу стаяць, так як і Леніну, на цэнтральных плацах беларускіх гарадоў, быццам бы ў Польшчы помнікі Пілсудскаму. Чаму гэтыя чужыя бязлітасныя забойцы так паважаюцца ў Беларусі? На гэтае пытанне доўга яшчэ будуць шукаць адказу гісторыкі, сацыёлагі, усялякія псіхааналітыкі. Але напэўна паўплывала на такое бачанне свету беларусамі іх савецкая адукацыя.

Яшчэ нядаўна ў Польшчы аўтарытэтныя гісторыкі так пісалі пра Дзяржынскага: „Kolebką szlacheckiej rodziny Feliksa Dzierżyńskiego był majątek Dzierżynowo, położony w głuchym zakątku Białorusi, na skraju Puszczy Nalibockiej, nad rzeką Isą. Piętrowy dworek Dzierżyńskich wznosił się na wzgórzu opodal rzeki wśród rozległych łąk. (...) Feliks świetnie pamiętał ten dom, lubił wspominać dzieciństwo, ukochaną swą matkę, zabawy i figle dziecięce. (...) Od wczesnej młodości przejawiał Feliks ogromną miłość do dzieci. (...) Wrodzone poczucie sprawiedliwości towarzyszyło Dzierżyńskiemu od początku do końca życia. (...) Z rodzinnego domu młody Dzierżyński wyniósł gorący patriotyzm. (...) Lata nauki w gimnazjum wileńskim (1887—1896), to nieustanny bunt przeciwko uciskowi narodowemu i klasowemu, przeciwko prześladowaniu języka polskiego w szkole, w domu i na ulicy. W czasach gimnazjalnych — wspominał Dzierżyński — zmuszanie do mówienia po rosyjsku, zmuszanie do chodzenia do cerkwi, system szpiegostwa był jakby gwałtem nade mną". Так пісаў у выдадзенай у 1987 г. кніжцы Ежы Ахманьскі [1]. З гэтага відаць, што герой ад пачатку да канца свайго жыцця любіў дзяцей, сваю маму, справядлівасць цаніў вышэй усяго. Чытаючы такую кніжку ўзнікае ўражанне, што Дзяржынскі не еў, не піў, не спаў, толькі думаў, як дапамагчы пралетарыяту, прыгнечаным народам (асабліва палякам) і арганізаваў барацьбу супраць галоўнай злачыннай сілы — імперыі Раманавых. А калі разам з Леніным, Троцкім, Сталінам за грошы нямецкай разведкі давялі да развалу расейскай дзяржаўнасці, „Dzierżyński skupiał się na demaskowaniu rozmaitych antyradzieckich organizacji, obierając tym samym swój najważniejszy rodzaj służby dla rewolucji (Ochmański, s. 109). Do takiego jak Dzierżyński człowieka, w którym przez lata walki nagromadziła się jakby cała nienawiść klasy robotniczej do wyzyskiwaczy i caratu, partia bolszewicka i jej Komitet Centralny odniosły się z całkowitym zaufaniem (s. 112). Rewolucja znalazła się w poważnym niebezpieczeństwie. Rada Komisarzy Ludowych przyjęła więc projekt Dzierżyńskiego i powołała Wszechrosyjską Nadzwyczajną Komisję do walki z kontrrewolucją i sabotażem (z rosyjska w skrócie Czerezwyczajka lub Czeka). Dzierżyński natychmiast przystąpił do tworzenia aparatu Czerezwyczajki. Wyszukiwał oddanych rewolucji czerwonogwardzistów, żołnierzy, marynarzy, ludzi twardych, nieprzekupnych, niewrażliwych (s. 113). 21 lutego 1918 r. rząd radziecki wydał dekret, który uprawniał organy władzy radzieckiej do rozstrzeliwania bez sądu nieprzyjacielskich agentów, spekulantów, chuliganów i w ogóle wszelkich kontrrewolucjonistów. Wykonanie tego zadania przypadło Czerezwyczajce. Dekret stwarzał podstawy prawne do bezlitosnego tępienia przez nią wrogów rewolucji. Do zwalczania sił kontrrewolucji Dzierżyński przystąpił w sposób systematyczny" (s. 116).

Фелікс як першы выканаў „ленінскую норму" — за аднаго забітага бальшавіка расстрэльваў 700 „ворагаў народа". Зверствы Дзяржынскага і ягоных чэкістаў як бы акрэслілі характар савецкай улады ў будучыні. Шмат у радах чырвонай бяспекі было палякаў, латышоў, яўрэяў і расейскіх люмпенаў. Сталінскі тэрор трыццатых гадоў быў можа толькі больш масавы, таму, што створаная Дзяржынскім бяспека налічвала ўжо сотні тысяч супрацоўнікаў, а кожны з іх вымушаны быў даказаць, што ён патрэбны савецкай уладзе, а рады ворагаў растуць проста вокамгненна.

„Dzierżyński to człowiek o wyglądzie mistyka-ascety, z twarzą jakby skopiowaną ze staroruskiej ikony, pracował bez wytchnienia. Czasem opuszczał Łubiankę, by jeżdżąc po kraju pancernym pociągiem sprawdzić, co się dzieje w terenie, by zaprowadzić ład, likwidować nieporządki. (...) Opowiadano brednie o jego rzekomym okrucieństwie. Sprawa oparła się o KC partii, który podjął uchwałę zabraniającą szkodliwej nieuzasadnionej i złośliwej krytyki instytucji państwowych, w tym i Czeki (s. 127). Feliks Dzierżyński był wrażliwy na piękną przyrodę. Piękno przyrody zawsze wiązało się w nim z myślami o idei komunizmu (s. 188). Był synem narodu polskiego i patriotą polskim aż do końca. Zawsze podkreślał swą polskość i nigdy nie udawał człowieka innej narodowości. Zamiłowany był w literaturze polskiej. Po rewolucji październikowej wszędzie, gdzie tylko mógł, służył polskim organizacjom", — піша пра Фелікса Дзяржынскага польскі гісторык Ежы Ахманьскі (с. 198).

Думаю, што было б чымсьці ненармальным забіраць палякам такога іх выдатнага нацыянальнага героя. Сярод беларусаў было дастаткова ўсялякіх крывавых бальшавікоў і не трэба дадатковых пачвараў шукаць сярод суседніх нацый.

Пару гадоў таму палякі пазбавілі „жалезнага Фелікса" ўсяе боскасці, якую на працягу 40 гадоў паспелі яму стварыць усялякія Ахманьскія, перапісваючы найчасцей „навуковыя" творы сваіх савецкіх калегаў.

У беларускіх падручніках па гісторыі Фелікс Эдмундавіч надалей прадстаўляецца як герой, змагар за шчасце беларускага працоўнага люду, а музей, прысвечаны яго асобе, выглядае куды больш шыкарна, чым музеі Янкі Купалы, Якуба Коласа ці Максіма Багдановіча. Няма тады чаму здзіўляцца, калі ў свядомасці часткі маладога пакалення Дзяржынскі існуе як патрыёт Беларусі. Жахлівае гэта, яле праўдзівае.

**Яўген Мірановіч**

------------------

1/ Jerzy Ochmański, *Feliks Dzierżyński*, wyd. Ossolineum, Warszawa—Kraków—Wrocław—Łódź, 1987.

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(заканчэнне; пачатак у 21 н-ры)*

### Накіраванне на чыгунку

На ўсё жыццё засталася ў душы і сэрцы журбота да людзей, якія гаварылі на амаль адной мове, але аднесліся да мяне як да ворага. Не давяралі яны ніводнаму майму слову, хаця гэты „вораг" выратаваў іх ад непазбежнай смерці. Як абараніліся б бедныя чырвонаармейцы на двух адкрытых грузавых машынах у чыстым полі ад узброеных да зубоў немцаў, сядзеўшых у засадзе з кулямётамі і гарматамі? Сапраўды, саветы паказаліся мне зверамі, нелюднямі. Бянтэжыла іх думка, чаму нямецкі афіцэр выпусціў мяне жывога са штаба. Савецкія афіцэры, відаць, зрабілі б напэўна па-свойму, куля ў лоб ды ў зямлю...

Падчас сутычкі саветаў з немцамі каля Слабады быў разбіты адзін нямецкі танк, а ад савецкіх снарадаў згарэлі тры сялянскія хутары — Алішкевіча, Іларыёна Уласіка ды Міхася Манцівада. Ахвяр у людзях сярод саветаў не было.

На трэці або чацвёрты дзень пасля прыходу саветаў была аб'яўлена ўсеагульная мабілізацыя. У кожную вёску прыехала па трох—чатырох чырвонаармейцаў, якія сабралі ўсіх мужчын ва ўзросце ад 18 да 45 гадоў ды павялі ў ваенкамат. Там зрабілі павярхоўны камісійны медыцынскі агляд і калі галава, рукі і ногі былі на сваім месцы, такога бралі ў армію. Усіх прыгодных да вайсковай службы пагружалі ў таварныя вагоны і адпраўлялі ў лагер у ваколіцах Смаленска. Падчас камісійнага агляду прызыўнікоў вылучалі партызан і іх супрацоўнікаў. Гэтую катэгорыю людзей накіроўвалі на працу ў міліцыю ды на чыгунку. Мяне і майго дваюраднага брата Эдзіка, дзякуючы партызанскім пасведчанням аб нашай падрыўной дзейнасці ў карысць атрада імя Суворава, направілі на працу ў чыгуначнае вагонарамонтнае дэпо на станцыі ў Стоўбцах. Працаваў я там памочнікам слесара, па дванаццаць гадзін у суткі, аж да дня заканчэння вайны.

### Канец вайны і пачатак вандроўкі

9 траўня 1945 г. запамяталася мне як урачысты і заадно жудасны дзень. А восьмай гадзіне раніцы загудзелі ўсе паравозныя і заводскія гудкі, раззваніліся царкоўныя званы. Чыгуначнікаў і рабочых розных прадпрыемстваў вывелі на вуліцы горада на парадное шэсце з аркестрам наперадзе. Святочную атмасферу парушалі жанчыны на тратуарах, якія лямантавалі па загінуўшых. Хвалю лямантy ў горадзе выклікалі бяздумным загадам чыноўнікі ваенкамата, якія на працягу цэлага красавіка не выдавалі паведамленняў пра загінуўшых на фронце, а толькі ў гэты дзень даручылі „пахаронкі" сем'ям спецыяльным пасланцом. З тае прычыны радасныя воклічы і вясёлая музыка мяшаліся з плачам і лямантам сірот і ўдоваў. Жудасна было на гэта глядзець.

На другі дзень пасля святкаванняў заканчэння вайны загадалі нам перайсці на васьмігадзінны дзень працы. У сапраўднасці рабочыя на працы знаходзіліся дзевяць гадзін, бо пасля чатырох гадзін працы аб'яўлялі абедзенны перапынак на цэлую гадзіну, а пасля зноў было чатыры гадзіны працы.

Неўзабаве органы НКУС пачалі інтэнсіўна шукаць у цэлым дзірак. Пачалі правяраць, хто чым займаўся ў час нямецкай акупацыі. Начальнік дэпо прыкмеціў, што я падчас акупацыі хадзіў у беларускую школу, што, на яго думку, было злачынствам супраць Савецкага Саюза. Работнік НКУС аднекуль даведаўся пра мой удзел у школьным гуртку Саюза беларускай моладзі, а гэта лічылася тады самым злачынным актам супраць СССР і бацюшкі Сталіна. Пачаліся допыты і абвінавачанні ў прыналежнасці да фашысцкай арганізацыі. Следчыя аказаліся неадукаванымі людзьмі, як тыя афіцэры, якіх сусрэў я на гасцінцы каля Слабады ў 1944 г. Не бралі яны ўвогуле пад увагу таго, што я супрацоўнічаў з партызанскім атрадам імя Суворава ды ўзрываў нямецкія цягнікі. Не памагала нават спраўка ад камандзіра атрада.

Следчыя намагаліся збіць мяне з панталыку і даказаць мне антыпатрыятызм ды злачынную фашысцка-нацыяналістычна-кулацкую дзейнасць. Следчы не раз папракаў мяне, гаворачы: „Вишь ты какой, хорошие люди погибли на фронте, а ты, сволочь, скрылся от фронта, живёшь". Хацелася мне сказаць тады, што мы абодва сволачы, паколькі абодва не былі на фронце: я — рабочы чыгуначнага дэпо і ён — следчы НКУС. Але дзе там было да такой размовы. Усё гэта адбывалася ў гэтак званым чыгуначным опер-пункце НКДБ станцыі Стоўбцы.

У канцы ліпеня або ў пачатку жніўня 1945 г., падчас аднаго з чарговых допытаў наконт дзейнасці ў гуртку СБМ следчы запатрабаваў паказаць спраўку ад партызан. Праз нейкі час мяне выклікалі ў чыгуначнае абласное ўпраўленне Народнага камітэта дзяржаўнай бяспекі ў Баранавічы. Там зноў спачатку сталі допытваць пра дзейнасць у СБМ і пра перахоўванне зброі. На маё тлумачэнне, што знойдзеную зброю аддаў партызанам, не верылі. (У сапраўднасці частку зброі пакінуў я сабе; яе знайшлі ўлетку 1947 г., калі разбіралі нашы будынкі, але я разам з бацькамі ў той час быў ужо ў Польшчы.) У Баранавічах забралі маё пасведчанне, падпісанае самым камандзірам атрада Курбанавым, для праверкі яго сапраўднасці. Выкарыстоўваючы няўвагу ахоўніка, удалося мне ўцячы праз акно прыбіральні. З паловы жніўня 1945 г. да лютага наступнага года я скрываўся. (Спраўку аб супрацоўніцтве з партызанамі аднавіў я ў Менску ў 1975 г. на падставе заявы сведкаў.)

3 лютага 1946 г. я і брат Іван рэпатрыяваліся ў Польшчу як члены сям'і вайсковага асадніка. Спачатку спыніліся мы на г.зв. Польскіх Вернутых Землях ды пасяліліся ў горадзе Жэпін. Тут 19 лютага стаў я працаваць на чыгунцы. Потым пераехаў у Легніцу, дзе таксама працаваў на ПКП.

Пакручастымі былі таксама лёсы маіх родных. У 1957 г. прыехаў у Польшчу мой брат Язэп. Прайшоў ён царскую „школу" ў савецкіх лагерах, а потым у польскім войску генерала Андэрса на Захадзе. Прымаў ён удзел у бітве пад Монтэ-Касіна. Пасля вайны апынуўся ў Паўднёвай Амерыцы і ў 1946-1957 гадах жыў у Аргенціне. Пасяліўся ў Губіне Зялёнагурскага ваяводства. У гэтае ваводства папалі таксама брат Янка, які працаваў ляснічым у мясцовасці Плішка (памёр у 1979 г.), і брат Павел, які працаваў чыгуначнікам у Жэпіне (памёр у 1983 г.). А брат Яўген (памёр у 1987 г.) жыў і працаваў у ПГР Рагалікі каля Элка.

З 1970 года жыву ў Беластоку. Тут у 1971 г. памёр мой бацька, а ў 1990 г. — маці. Цяпер я на пенсіі.

**Юстын Пракаповіч**

# ПАСОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІЯ РАЗМОВЫ

*Працяг са стар. 1*

Грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея, які — паводле законаў — павінен развязацца ў момант заканчэння будаўнічых прац. Хто тады будзе ўласнікам музея? Янка Сычэўскі сказаў, што паводле перамоваў з Міністэрствам культуры і мастацтва РП і Беластоцкім ваяводам, аб'ект павінен функцыяніраваць як дзяржаўная ўстанова, аднак з правам уласнасці за БГКТ. Адміністратарам з боку дзяржавы быў бы ваявода.

Старшыня Камітэта пабудовы Кастусь Майсеня сумняваецца, ці ваявода можа эфектыўна адміністраваць яшчэ адным музеем, калі не дае сабе рады з ужо існуючымі. Навучаны дасведчаннем з белавежскім музеем, дапускае ён адно нейкую форму дзяржаўнай арэнды. Калі БГКТ дамовіцца аб перадачы ў якой-колечы форме музея дзяржаве, то мы, беларускае грамадства Гайнаўкі, якое ўклала найбольш высілкаў у пабудову, адкупім пляц і ўсё, сказаў спадар Майсеня.

Пэўным ёсць аднак, што з бюджэту горада музей не ўтрымаецца.

Невядомы лёс таксама сядзібы Галоўнага праўлення БГКТ на вуліцы Варшаўскай 11 у Беластоку. Паводле дамоўленасці між прэзідэнтам горада і беларускімі арганізацыямі, якая была заключана сёлета ў лютым, сплата задоўжанасці за арэнду адтэрмінаваная да канца бягучага года. Але ўжо ў палове года беларускія арганізацыі супольна павінны былі прадставіць прэзідэнту план выкарыстання будынка ў будучыні. На жаль, Янка Сычэўскі ігнаруе ўсе прапановы размоў з боку старшыні Беларускага саюза Яўгена Вапы, лічачы, што астатнія беларускія арганізацыі аб нічым больш не думаюць, акрамя таго, як пазбавіць БГКТ яго ўласнасці. Сваё мышленне Янка Сычэўскі прадставіў сеймавай камісіі. „Пачатак існавання маладых беларускіх арганізацый скіраваны быў на барацьбу з намі, — казаў старшыня падчас сустрэчы на Варшаўскай. — Мы былі прадметам вострых атакаў, якіх некаторыя не спыняюць і да сёння, толькі праводзяць іх скрытна. Абзывалі нас посткамунай. Закідалі, што займаемся толькі састарэлым фальклорам, арганізуем адно імпрэзы для пенсіянераў. Гэтыя

### вульгарныя, немаральныя закіды

падыктаваныя выключна злой воляю, таму няма між намі супрацоўніцтва. У 1992 годзе маладыя арганізацыі пастанавілі забраць ад нас „Ніву" і забралі. З розных асяроддзяў, са школ даходзяць да нас чуткі, што „Ніва" перастала прадстаўляць беларускае асяроддзе ў Польшчы".



*Высокія госці ў калідоры Беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча.*



*Сустрэча ў сядзібе беластоцкай "Салідарнасці" з Беларускім саюзам. Прамаўляе старшыня Камісіі, пасол Ежы Штэліга.*

Беларускі саюз прадставіў гасцям тры галоўныя справы: утварэнне ў Беластоку Цэнтра беларускай культуры, заснаванне пры Беластоцкім філіяле Варшаўскага ўніверсітэта навуковага Інстытута беларускай культуры і стварэнне пры беластоцкім ваяводзе функцыі ўпаўнаважанага па справах нацыянальных меншасцей. (Дарэчы, сустрэча праходзіла ў канферэнцыйнай зале прафсаюза „Салідарнасць". Старшыня рэгіёна Юзэф Мазалеўскі спецыяльна з гэтай нагоды пазычыў у рэдакцыі „Часопіса" ікону „Усіх беларускіх святых".) Прысутны на сустрэчы былы пасол Яўген Чыквін звярнуў увагу, што беларускія арганізацыі, пры цэлай да іх павазе, не абымаюць усяго асяроддзя. Падобную ролю ў захаванні культурнай разнароднасці гэтай зямлі — апошняга фрагмента былой вялікай, шматнацыянальнай Рэчы Паспалітай — выконваюць таксама брацтвы, хаця ў сваёй назве не ўжываюць слова „беларускі". На практыцы, іх таксама трэба лічыць прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей.

У адным пункце ўсе беларускія арганізацыі, усе дзеячы згодныя — Супрасльскі манастыр павінен заставацца ўласнасцю Праваслаўнай царквы.

* * *

Падсумоўваючы выязное пасяджэнне камісіі ў прысутнасці віцэ-ваяводы Гжэгажа Рыкоўскага і прэзідэнта Беластока Кшыштафа Юргеля яе старшыня Ежы Штэліга падкрэсліў, што якраз на Беласточчыне адказнасць дзяржаўнай адміністрацыі павінна быць большай, чым у іншых ваяводствах. „Я паходжу з Апольшчыны, зямлі прынамсі два разы багацейшай, — казаў ён. — Калі я пачую, якія тут бюджэты гмін, я аж жахнуўся. Гэтыя гміны не змогуць самастойна развязаць сваіх праблемаў".

Паслы перасцерагалі прадстаўнікоў мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі і самаўрадавай улады, каб думалі катэгорыямі дзяржавы і не дапускалі, каб — як у выпадку сядзібы БГКТ — з дробнай лакальнай справы рабілася міжнародная афёра. Госці аднадушна хвалілі прэзідэнта горада за фіналізацыю справы з беларускім прадшколлем.

Ваявода абяцаў сваю падтрымку ў справе беларускай навуковай установы на новым Падляшскім універсітэце і сказаў, што будзе назначаны ўпаўнаважаны па справах меншасцей. „У гэтай справе ёсць яшчэ розныя нявырашаныя пытанні, — гаварыў ён, — напрыклад, ці мае гэта быць прадстаўнік меншасці?" Абсалютна не, адказалі паслы і параілі пазнаёміцца з дасведчаннямі Апольскага і Ольштынскага ваяводстваў.

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**
**і Ганны Кандрацюк**

# З дзённікаў С. Яновіча

**1992—11—22**

Памяці Юркі Геніюша. Семінар *Белавежы*, з добрай нагоды выйсця кн. *Маці і сын*. Успаміналі, ацэньвалі... Цяжкі быў у яго характар; удаўся ў бацьку. Падобны і ў сына Юркі, Міхася; наскандаліў Чыквіну за тое, што нібыта самавольна — і семінар ладзіць, і кніжку выдаў... Вельмі ж высокага самаўяўлення хлапчук! Думае ён, відаць, што тут нехта разжывецца на гэтым. (...)

Днямі быў у рэдакцыі *Нівы* Лугін, шэф Беларускай сялянскай партыі (наладжвае сувязь з PSL). Інтэлігентны; дыскусія з ім была чыстай радасцю. — Бракуе г. партыі ўласнай газеты. (...)

**1992—11—30**

(...) Нечаканы званок ад Вольгі Іпатавай: яна ў Беластоку, на універсітэцкай канферэнцыі *Польшча — усходнеславянскае памежжа*... І Ул. Конан з жонкаю. Вечарам пасядзелі ў нашай кватэры. — Паніка ад развіцця падзей у Расеі! Думаю, лішняя. А ў такой лёсавай дзяржаве як Беларусь доўга яшчэ будуць тэндэнцыі да самалiквідацыі. Больш ад іх страху, чым рэальнай небяспекі. (...)

**1993—01—03**

Амаль месяц па-за домам. Спачатку ў Гданьску, потым у Рэспубліцы Беларусь. Усюды, на жаль, як палітычная персона (хоць і ў літаратурным адзенні). Так, відаць. ужо і будзе.

Тры дні — у Стэмпаў (Гдыня-Хважна, 10—13.XII.). Сустрэча ў стылі *Беларусі, Беларусі*, у ліцэях і ў нейкай плябаніі (непадалёк мячэці). А яшчэ і са жменькай беларусаў у студэнцкім інтэрнаце (прыйшоў м.ін. Мацей Канапацкі; шкадую, што мала было часу). (...)

Ледзь з духам — досвіткам — у Менск (14-га). У фундаваны — Саюзам пісьменнікаў — адпачынак нам двaім у Доме творчасці *Іслач*, што за Ракавам (15.XII. — 2.I.). Адпачынку таго аказалася няшмат; намножылася справаў, выездаў у Менск (утомных у іхным балагане). Ужо 18-га меў вечар у Доме літаратара; горшы за леташні. Калі б не эмігранты, што з'ехаліся на Сход беларусаў блізкага замежжа, публікі было б зусім мала, на два рады якія ў той вялікай зале. Час не той, жыццё зрабілася галотнае, і нават людзям культуры ўжо не ў галаве культура... Інтэрв'ю тэлебачанню.

Праз некалькі дзён ліхі падкусіў мяне (і Таню) паехаць з *Іслачы* на імпрэзу ў гонар 600-годдзя каранацыі Вітаўта Вялікага. Паўтарыўся кашмар вяртання; пашчасціла дабрацца да Ракава апошнім рэйсавым аўтобусам — не ўсе ездзяць, бракуе бензіну — а далей ішлі поначы шашою паўз лес (папярэднім разам паратавалі нас Янкоўскія, бацькі Галі, што была летам у Крынках; сям'я з іх шаферская, маюць аўто і для аўто). Пісьменнікі, некалі аж да начэплівасці гасцінныя, цяпер разбягаюцца, пакідаюць цябе свайму лёсу.

Больш я запрашэнняў не прымаў. Каторагасьці дня правёў, узгодненую загадзя з Ул. Рубанавым, сустрэчу з ліцэістамі Першага гуманітарнага ( — Кірава, 21). Спадзяваўся на большае, але вучнёўская моладзь тут не так жвавая, як у нас (не кажучы ўжо пра Гданьск). Затое цікава пасядзелася пасля, у настаўніцкім пакоі; з Ермаловічам, Коласам, Трусавым, Л. Баршчэўскім, і іншымі.

А ўдзень, маючы пару гадзін часу да гэтага, надумаўся (ад нудоты) зайсці з Таняй у польскае пасольства, што побач Саюза пісьменнікаў, каб павіншаваць знаёмую мне амбасадар Смулак з Новым Годам. Трохі з разлікам на працідзеянне плёткам палякаў, што я ў Менску ўсё... адрываю Беласточчыну ад Польшчы. Але, замест фармальнага візіту, атрымалася тлумная гутарка (...). Смулак запрапанавала мне аўтарскі вечар у іх, з удзелам запрошаных менскіх інтэлектуалаў ды палітыкаў. Вядома, палітычную праўдзе імпрэзу; несумненна ў кантэксце contra жалям дэлегацы БГКТ на спомненым Сходзе 19 і 20-га. Што было рабіць?! Вечар гэты (29-га) удалося правесці надта ўдана, не манатонна, інтэлектуальна жыва, па-канцэртнаму, у чым немалая заслуга і самое публікі, адборнае! Былі: Пазьняк, Хадыка, Трыгубовіч, Янушкевічы, Траяноўскі... Пару дзесяткаў такога класа людзей. І з палякаў не слабейшыя (нават Карп з Варшавы акурат з'явіўся, і польскі ксёндз з беларускай літургіяй, малады). На працягу трох гадзін (18,30—21,30) шчыпалі мяне пытаннямі цалкам страшна, але ў гэты час Бог не пашкадаваў мне знакамітай кандыцыі, яснасці думкі ды імгненнага рэфлексу, дасціпнасці фразы. Ад пограззу так? Каб не акампраметавацца? — Потым адчуваў сябе, бы пракопалі шар. (...)

У хаце Янушкевічаў (быў і Фэлік) правялі дзень Сільвестра; сардэчна, з гумарам, утульна. Наведалі і Рагойшаў; разбудоўваюць бацькаў дом. Увечары — у Менск, аўтобусам; заначавалі ў маёй траюраднай (?) сястры Рэны Семяняка. Назаўтра пагасцявалі ў Янкі Брыля; прыемна, элегантна, але чамусьці без сур'ёзнай размовы. Доўга, каля паўтары гадзіны, чакалі на марозе, пакуль прыехаў патрэбны нам нумар гарадскога аўтобуса. І яшчэ даўжэй давялося мерзнуць на вакзале; хуткі цягнік Масква—Варшава спазняўся... Праводзілі нас тыя ж Янкоўскія; знак часу: калісьці, бывала, быў натоўп літаратараў, у сямідзесятыя...

*(працяг будзе)*

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Настаўніца беларускай мовы Вера Фларчук і дырэктар школы Ян Лабузінскі.*

## У школе ў Кленіках

Школу ў Кленіках наведала я ў пачатку верасня. Быў цёплы сонечны дзень. У вёсцы пачалі капаць бульбу.

Ля школьнага будынка разносіўся вясёлы гоман. Якраз быў перапынак.

— Мы ўжо тут вас чакаем, — прывітала мяне настаўніца беларускай мовы Вера Фларчук.

Спадарыня Вера пазнаёміла мяне з настаўнікамі і дырэктарам Янам Лабузінскім. У настаўніцкім пакоі, на калідорах, на панадворку ўсе гаварылі на мясцовым дыялекце. Рэдка сустракаецца такую школу на Беласточчыне. Ёсць тут і яшчэ адна асаблівасць. У Кленіках усе дзеці ходзяць на ўрокі беларускай мовы.

Калі я пачала аглядаць школу, у адным канцы будынка чуваць было мілагучныя спевы. На калідоры, якраз перад кабінетам дырэктара, вісіць беларуская насценная газета.

— Не будзем мяняць сцяга, — адзначыла настаўніца пра бел-чырвона-белы сцяг.

Таксама зала беларускай мовы вельмі прыгожая. Аздабляюць яе макаткі, ручнікі, драўляныя гаспадарчыя прылады.

Усе экспанаты прыносяць вучні.

— У будучым наладзім тут свой „музейчык”, — гавораць настаўнікі. Пані Оля Германюк і Людміла Максімюк якраз вялі рэпетыцыі са спявачай групай „Вясёлка”. На сустрэчу завітаў таксама выхавацель сёмага класа Міраслаў Пяткевіч.

Сёмы клас гэта не толькі „Вясёлка”. Сярод моладзі і дэкламатары ёсць, і таленавітыя спартсмены.

Варта назваць сямікласнікаў з Кленік. У класе большасць складаюць дзяўчаты: Аліна Васілюк, Эмілька Пятрук, Івона Касцючук, Кася Філіповіч, Бажэна Данілюк, Івона Аўласюк, Анджэліка Сэльвяструк і Анэта Парфянюк.



*На перапынку ў Кленіках.*

У класе чатыры хлопцы: Марыюш Купрыяновіч, Марцін Сцепанюк, Мірак Дэнісюк, Крыстафор Філіманюк.

На канец сустрэчы прыгажуні з „Вясёлкі” праспявалі беларускія песні „Ой у лузе пры даліне” і „Купалінка”.

* * *

У Кленіках 111 вучняў. Вучацца тут дзеці з васьмі вёсак. Школа вядомая ў наваколлі з-за шматлікіх перамог у галіне спорту. Тут таксама алімпійцы па матэматыцы. Усе васьмікласнікі працягваюць навуку ў сярэдніх і прафесіянальных школах. Варта адзначыць, што тут таксама вучыўся наш карэспандэнт, юны іканапісец Адам Сцепанюк.

**Г. Кандрацюк**
**Фота аўтара**



*Настаўніцы Людміла Максімюк і Вольга Германюк.*



*Спявае „Вясёлка”.*




### Лета ў майго дзеда

Прыйшло ў вёску лета:
сонца грэе, птушкі спяваюць,
канікулы будуць вучням —
гаспадары іх не маюць.
Калі трава вырастае,
дзед бяжыць на сенажаці,
штодзень, рана і ўвечар,
сваю жывіну даглядае.
Пасля Пятра Святога
касу дзед часта клепле,
і нам няма забавы,
ад рання ў поле спешым.
Дзед шумна касой водзіць,
а я „пярэвясніцу” звіваю,
жыта, авёс, пшаніцу
вяжу, з пракоса адбіраю.
Пазней дажджу чакаем,
аж шэрую зямлю напоіць,
і дзед наш выйдзе ў поле,
араць канём загоны.
А тут яшчэ атава,
яе сушыць, варочаць,
пазней у гумно траву хаваем
і дзед усё бачна назірае.
Ды і кончылася лета
ў майго дзядулі.
Але дзед не будзе казак
аглядаць,
восенню бульба, зімой дровы,
прыйдзе вясна, новыя працы
ў полі трэба пачынаць.

**Ірка Гэтша**

Каханая Ірка! Вельмі дзякую за пісьмо і пажаданні. Тваё назіранні жыцця ў вёсцы вельмі рэалістычныя. Аж цяжка паверыць, што ты — жыхарка Гданьска. Думаю, што і твой дзед усцешыцца, калі прачытае гэты верш. А я спадзяюся, што і далей будзеш нам пісаць.

**„Зорка”**

## МАГІЧНАЯ КРЫЖАВАНКА

Запоўніце клеткі і адказы прышліце ў „Зорку”. Сярод аўтараў правільных адказаў будуць разыграны запісныя кніжкі з аўтаручкамі.

КОФЕ
ПТУШКА СЯМЕЙСТВА КРУМКАЧОЎ
ДРАПЕЖНАЯ ПТУШКА
ВЫЕ Ў ЛЕСЕ

## ЗАГАДКІ

Маленькі сабачка не брэша,
не кусае, а ў хату не пускае.

* * *

Мае чатыры нагі — не пойдзе,
мае пух і пер'е — не паляціць,
мае душу, ды не заўсёды.

* * *

Нядоўга жыў, усіх карміў,
калі ўпаў, ніхто касцей не сабраў.

*(замок, ложак, гарошак)*

## Скорагаворкі

Клара закрыла краму на крук.

* * *

Страказе каза казала:
— Я ў пучкі лазу вязала,
Павязу лазу казлу,
Каб не лазіў у лазу.

А.А.

*Для старэйшых і малодшых чытачоў*

## КОНКУРСЫ

Назавіце імя і прозвішча, а таксама прынамсі адзін твор беларускага літаратара, кандыдата на Нобелеўскую прэмію. Сярод аўтараў правільных адказаў мы разыграем касеты **„Белага Сну"**.

* * *

Назавіце пяць кветак, якія цвітуць восенню. Можна падаць назвы, якія бытуюць у вашым дыялекце. Сярод аўтараў правільных адказаў мы разыграем **кніжку пра кветкаводства.**

## Нашыя паэткі



Сёстры Мілена і Юліта Яканюк ды Бася Ляўчук — вядомыя карэспандэнткі „Зоркі". Усе дзяўчаты родам з вёскі Крывая. З „Зоркай" яны сустрэліся і бліжэй пазнаёміліся ў Меляшках, дзе разам размалёўвалі крыж і пісалі вершы.

Наймалодшая, Міленка, зараз у трэцім класе. Пастаянныя чытачы нашай старонкі напэўна памятаюць верш дзяўчынкі пра бабу, якая разам з дзедам палола агарод у спякотнае лета.

Бася і Юліта — вучаніцы сёмага класа. Як прызналіся, пісаць вершы намовіла іх настаўніца беларускай мовы спадарыня Анна Шыманская. Дзяўчаты ходзяць у Пачатковую школу ў Орлі. Усе юныя паэткі незвычайныя дзяўчынкі. Нават маленькая Габрыся з Меляшкоў захацела стаць паэткай, так як Міленка, Бася і Юліта. Яна пастаянна хадзіла за старэйшымі сяброўкамі і паўтарала ўсе іх словы.

На здымку стаяць (з левага боку) маленькая Габрыся (дзяўчынка не памятае яшчэ свайго прозвішча), Мілена Яканюк, Бася Ляўчук і Юліта Яканюк.

З-ка
Фота Г.К.

## Вершы Віктара Шведа

### Лепш табе ў нас

Успомніў бацька юныя гады:
— Калі, сыночак, быў я малады,
Мяча футбольнага, веласіпеда
Тады не меў я і не ведаў.

Анучны мяч на панадворку
Я падбіваў тады, Ягорка.
Адказ пачуў ён ад малога:
— Дык лепш табе у нас намнога.

### Мой татка — паэт

Настаўнік запытаў Ігната:
— Скажы мне, дзе працуе тата?
— Мой добры тата рэгулярна
Працуе у адной кавярні.

Настаўнік адказаў: — Мяркую,
Афіцыянтам ён працуе?
Ігнатка аспрэчвае гэта:
— Татка з'яўляецца паэтам!

### Памшчуся на ўнуках

Надта гарэзлівы сынок
У школе занядбаўся зноўку.
А раззлаваны татулёк
Балючую зрабіў лупцоўку.

Не выкруцішся аніяк,
Так моцна бацька ўзяў у рукі.
Урэшце сын азваўся так:
— Памшчуся на тваіх унуках!

*Міра Лукша*
*З ЦЫКЛА „МАЛЮНКІ"*

### Сумная песня

Іх ніколі няма дома, ніколі.
Ні матулі нашай Гані,
Ні таты Колі.
Ані таты, ані мамы —
Усе працуюць.
І сядзім мы дома самі
Ды малюем.

Баба Люба нам згатуе
І накорміць.
Мы чытаем і малюем
У пакоры.
Не сумуем, не бядуем,
Хоць нам горка.
Мы краіну намалюем —
Фарбаў сорак.

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

**Як мышка пісала гісторыю свайго жыцця**

Расказваў аднойчы тату барадаты дзядзька Кастусь, мастак:

— Калі сам сябе не пахваліш, увесь дзень ходзіш як... аплёваны!

Пік-Пік бачыла яго досыць часта і ведала пра яго шмат цікавага — усё тое, пра што ён расказваў. Мама з татам не мелі звычкі размаўляць пра непрысутных, таму нічога дрэннага пра дзядзьку Косцю мышка ад іх не пачула. А што ведала? Што дзядзька Косця — найпрыгажэйшы сярод курачых „Беламорканал" (Цьфу! — такое свінства! — дзядзька Косця кідаў дзе папала смярдзючы горкім дымам белыя прыплюснутыя трубачкі). Быў дзядзька Косця ўласнікам найчасцей рамантаванай аўтамашыны „Лада", і найбольш з усіх уласнікаў „Ладаў" падабаўся найбольш прыгожым у Менску дзяўчатам з найдаўжэйшымі ножкамі (ну, якая прыгажосць у задоўгай назе, меркавала Пік-Пік, гледзячы на свае тоўстыя сцёгны і лытачкі). Сярод найбольш неграшавітых мастакоў дзядзька Косця меў наймацнейшую галаву! Вядома, быў з дзядзькі Косці вялікі жартаўнік. Мышка падумала: вось дзядзька Косця цяпер гаворыць, што піша нейкія „мемуары" пра сябе, кніжку, значыць, пра сваё жыццё. Сам пра сябе піша! А ты тут усё чакай, калі мама захоча сесці за пішучую машынку!

Рашыла Пік-Пік свае справы ўзяць у свае лапкі. Пайшла ў татаў кабінет, выцягнула са стоўбіка белы вялікі ліст паперы, з глінянага кубачка дастала аловак. Прымасцілася на пісьмовым стале, узяла аловак у правую лапку... Не, трэба браць аберуч. Націснула... Аловак скрыпнуў, потым хрусь! — паламаўся ў ім стрыжань! Трэба завастрыць. Мышка асцярожна ўзяла ў лапку лязо. Не, небяспечна — можна парэзаць кіпцік! Прыйдзецца абкусаць канец алоўка, стрыжань выйдзе тады навонкі, і тады ён будзе пісаць словы, а яны складуцца ў сказы, а са сказаў будзе гісторыя.

— Хрум, хрусь, хруст! — заскрабалі на алоўку мышчыны пярэдніе зубкі. — Цьфу!

З алоўка вылез чорна-шэры няроўны стрыжань. Далікатна павяла Пік-Пік па лістку: „Май-а". Аж язык выставіла, старалася. Мае быць: „Мая гісторыя". Не, можа лепш будзе: „Гісторыя майго жыцця"? А, можа, так: „Жыццяпісанне". Такое слова аднойчы сказаў тата. Задоўгае. Карацей будзе: „гісторыя". І Пік-Пік пайшла за алоўкам, выводзячы: „гісто". Тут быў ужо канец лістка. Пік-Пік прысела на гумку-„мышку". Ухх! Тааак! Цяжка пішацца гісторыя жыцця!

Ад чаго пачаць? Пэўна, ад дня нараджэння. Але гэтага моманту ніхто не памятае! Лепш адразу сказаць, што Пік-Пік — найпрыгажэйшая, найбольш адукаваная (колькі ж газет перакусала!) ды і найтаўсцейшая мышка калі не ва ўсёй Беларусі, то ў Менску-сталіцы! І найбольш гаспадарлівая, запаслівая, а якая таленавітая! Але, ці так адразу сябе хваліць?..

— Ну, пішу далей! — Пік-Пік узяла аловак у лапкі, і вывела: „пікпік".

Тут да яе носіка даляцеў пах шакаладкі. Дзе ж яна магла быць? Напэўна, тата схаваў яе ў сваю шуфляду! Бачыце, які ён: схавае яе ад мамы, Веранічкі, Максімкі і мышкі, і потым ноччу з'есць, каб прыйшоў паэтычны настрой! І тады верш напіша!

— Вось-вось, калі і я з'ем шакаладку, усё пойдзе маланкава! — уцешылася мышка. — Тады лёгка і хутка напішу гісторыю свайго цікавага жыцця!

Мышка нахіліла галоўку з-над стала. Перад яе носам тырчэў халодны гузік на ножцы, за які цягаў тата, каб адчыніць шуфляду. Пах шакаладкі небяспечна заказытаў у мышчыным носіку, аж ёй закруцілася ў галаве.

— Трэба будзе мне пхаць гузік ад стала! — разумна падумала Пік-Пік і з усяе моцы налягла на гладкі метал.

— Зююоп! — піснула шуфляда, а потым шусь! ды бабах! — ламатнула на падлогу разам з Пік-Пік! На мышку пасыпаліся паперынкі, скрэпкі, каштаны, алоўкі, нейкія шкляныя шарыкі... — усё тое, чым забаўляецца тата, чакаючы каб прыйшоў паэтычны настрой. І малюсенькі батончык!

Ухапіла Пік-Пік шакаладку, наляту сарвала з яе абгортку і пабегла ў норку.

**Цётка Міра**

## „Зорка" дзякуе Натальцы!



Маленькая Наталля Кучынская (у цэнтры) падарыла польска-беларускаму прадшколлю ў Беластоку свае лялькі.

На здымку бачым Натальку з яе брацікам Міхасём і стрыечнай сястрычкай Ганулькай Пякарскай. Дзеці разам гулялі ў час сонечных канікул. Наталька і Міхась жывуць у Бельску-Падляшскім.

„Зорка" і ўсе дзеці з польска-беларускага прадшколля сардэчна дзякуюць Натальцы за яе велікадушны жэст.

# Зброя

*Працяг са стар. 1*

Каб набыць права на паляўнічую зброю, трэба найперш прайсці ненайкарацейшую працэдуру, вызначаную законамі Польскага паляўнічага саюза (Polski Związek Łowiecki), якая абымае, між іншым, веды пра саму звярыну. Інакш кажучы, каб страляць, трэба не толькі мець прыладу, але і ведаць у што можна страляць ды ў які перыяд года гэта рабіць. Занятак такі, пры ўсім гэтым, надзвычай каштоўная справа.

Зброя знаходзіцца таксама ў школах — спартыўная, г.зв. kbks. Звыш 500 штук на абшары Беластоцкага ваяводства. Акрамя школ у распараджэнні фізічных асоб і ўстаноў маецца яшчэ каля 60 kbks.

Калі ідзе пра зброю ў руках звычайных грамадзян, дарэчы будзе высветліць на пачатку асноўнае пытанне.

### Чаму наогул можна набываць зброю?

Асноўным юрыдычным актам з'яўляецца *Закон пра зброю, амуніцыю і ўзрыўныя рэчывы ад 31 студзеня 1961 г.* з пазнейшымі змяненнямі. Дадаткова ў гэтай справе дзейнічае *Распараджэнне міністра ўнутраных спраў ад 29 кастрычніка 1990 г.*

Рашэнне пра дазвол на зброю для фізічнай асобы выдае ваяводскі камендант паліцыі. Пакуль рашэнне пра дазвол на зброю будзе выдадзена, неабходна даставіць шэраг дакументаў такіх як: прашэнне з абгрунтаваннем, жыццяпіс, пасведчанне з месца працы або ксеракопія дазволу на гаспадарчую дзейнасць. Затым паліцыя „прасвятляе" кандыдата — аналізуецца характар працы, паводзіны ў месцы пражывання і г.п. Пасля ўсяго гэтага ваяводскі камендант паліцыі прымае рашэнне. У выпадку, калі дазваляецца купіць зброю, неабходна яшчэ прайсці экзамен у Ваяводскай камендатуры, у час якога правяраецца ці кандыдат умее належным чынам карыстацца зброяй, перахоўваць яе і кансерваваць. Ад фірмаў, якія займаюцца аховай маёмасці, дэтэктыўных агенцтваў, а таксама ўстаноў, якія гандлююць зброяй, патрабуецца дадаткова канцэсія Міністэрства ўнутраных спраў на такога тыпу дзейнасць.

Неабходнасць мець зброю абгрунтоўваецца грамадзянамі па-рознаму. Бываюць і несур'ёзныя прычыны: „бо суседзі мне дакучаюць", „бо падлеткі з мяне жартуюць". Вельмі часта „зброя неабходная для далейшай гаспадарчай дзейнасці". Прашэнні ў пераважнай большасці датычаць дазволу на газавую зброю. У мінулым годзе, аднак, здарылася ў Беластоку некалькі смелых рабункаў на школу кантораў абмену валюты, у сувязі з чым уласнікі кантораў пачалі згодным голасам дамагацца дазволаў на

### агнястрэльную зброю.

— *Ваяводская камендатура,* — сказаў прэсавы прадстаўнік К. Каспшак, — *вельмі асцярожная, калі ідзе пра дазволы на агнястрэльную зброю. На тэрыторыі нашага ваяводства актуальна каля 80 адзінак такой зброі. Дазволы на кароткую агнястрэльную зброю атрымалі галоўным чынам людзі звязаныя з праваахоўнымі органамі ды некаторыя ахоўныя фірмы.*

**У Беластоцкім ваяводстве больш за 3 400 штук газавай зброі ў руках цывільных грамадзян.**

Усе прыведзеныя да гэтага моманту даныя датычаць, зразумела, легальнай зброі ў распараджэнні грамадзян ды ўстаноў. Не згадвалася пакуль пра неафіцыйную сферу ўласнікаў зброі. Дарэчы, няма тут верагоднага крытэрыя, паводле якога можна было б зрабіць прынамсі прыблізны падлік той зброі. Вядома, аднак, што сфера такая існуе — існаванне гэтае час ад часу пацвярджаюць дзеянні паліцыі. На базары на вул. Кавалерыйскай у Беластоку была выяўлена крамка, у якой прапаноўвалася зброя з амуніцыяй, іншым разам на чыгуначным вакзале ў Беластоку было выяўленых 100 штук зброі, якая перавозілася ў звычайнай сумцы. У некаторай меры паказальнікам сферы нелегальных уласнікаў зброі можа быць злачыннасць, у якой прымяняецца зброя. З жалем трэба адзначыць, што злачыннасць такая ўзрастае. У першых шасці месяцах мінулага года паліцыя адзначыла ў Польшчы 492 злачынствы, у якіх прымянялася зброя (у гэтым ліку 431 разбой і 21 забойства). У першых шасці месяцах гэтага года злачынстваў такіх было 732 (662 разбоі, 26 забойстваў).

У час, калі завяршаўся збор матэрыялу ў гэты артыкул, атрымаў я вестку з Ваяводскай камендатуры ў Беластоку пра рабунак, які здарыўся ў Беластоку на вул. Траўгута. Ад чалавека, які ішоў па гэтай вуліцы, злачынцы забралі грошы ды іншыя прадметы на агульную суму 1 400 новых злотаў. Што цікавае, пакрыўджаны, ідучы, трымаўся адною рукою за пісталет пад палою. Не дапамог яму.

**Аляксандр Максімюк**

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXXIII. Вораг антыхрыста

У той час, калі Лаўрэнцій Зізанія (Куколь-Тустаноўскі) прысвяціў усяго сябе справам „пилно потребным" („Ніва" ад 27.08.1995) — напісанню і друку буквара, слоўніка, граматыкі, катэхізіса, то ягоны родны брат Сцяпан ахвяраваўся дзеянню жывым моўленым родным словам.

Таксама як і брат, Сцяпан быў выхаванцам Астрожскай акадэміі. Там ён не толькі атрымаў грунтоўную адукацыю і развіў свае красамоўчыя здольнасці, але і сфармаваўся як непахісны абаронца праваслаўя. Наколькі пераканаўча і прыгожа прапаведаваў С. Зізанія, найлепш сведчыць тое, што ў 1581 г., калі ён яшчэ не быў рукапаложаны ў духоўны сан, сам мітрапаліт дазволіў яму выступаць з пропаведзямі ў цэрквах Львова. С. Зізанія працаваў настаўнікам, а затым рэктарам у львоўскай брацкай школе, актыўна дзейнічаў у брацтве, вострa выступаў супраць агрэсіўнага наступу каталіцкай іерархіі на праваслаўную Царкву, асуджаў таксама тых праваслаўных духоўных, якія здраджвалі праваслаўе і рыхтавалі унію. За гэта яго выгналі са Львова.

Прытулак „вучонаму дыдаскалу" (педагогу) дало віленскае брацтва. У Вільні С. Зізанія яшчэ актыўней разгарнуў сваю настаўніцкую і прапаведніцкую дзейнасць. Ён *ніколі не чакаў пышных сустрэч, з'яўляўся на скрыжаваннях вялікіх дарог, на людных торжышчах і рынках, сярод шумнага вулічнага натоўпу, не кажучы ўжо аб ратушы і цэрквах, і гаварыў свае пропаведзі з сялянскага воза, са стала, ці проста з перавернутай бочкі,* — піша гісторык беларускай літаратуры Сцяпан Майхровіч.

Пропаведзі С. Зізаніі карысталіся вялікай папулярнасцю ў простага народа, дробнай шляхты, ніжэйшага праваслаўнага духавенства. Яны развівалі свядомасць народных мас і такім чынам рыхтавалі іх да змагання за праваслаўную веру і нацыянальную самабытнасць.

Ад каталіцкіх фанатыкаў, магнатаў, праваслаўнай вышэйшай іерархіі на С. Зізанію і ягоных спадзвіжнікаў пасыпаліся даносы. Тагачасны праваслаўны мітрапаліт Міхаіл Рагоза, які разам з большасцю сваіх епіскапаў патаемна рыхтаваліся да прыняцця уніі, склікаў у Навагрудак сабор, на якім Зізанія і яго сябры былі прызнаны ерэтыкамі, выкляты і адлучаны ад Царквы. Кароль Зыгмунт III Ваза на просьбу адступніка ад праваслаўя, мітрапаліта М. Рагозы, прыгаварыў іх да выгнання з Рэчы Паспалітай.

Няскораны абаронца праваслаўя вымушаны быў хавацца. Праўда, ў яго абароне выступіў Праваслаўны супрацьуніяцкі брэсцкі сабор, але ягоныя пастановы не мелі юрыдычнай моцы. Таму С. Зізанія апынуўся ў трагічным становішчы — за невыкананне каралеўскага загаду яму пагражала смерць. Ён скрыўся ў віленскі Свята-Троіцкі манастыр, там прыняў манаскі пострыг і імя Сільвестр і надалей працягваў сваю дзейнасць. Аднак, калі шпіёны уніяцкага мітрапаліта Іпація Пацея раскрылі яго схованку, манастыр быў каралеўскімі войскамі ўзяты штурмам, і С. Зізанія вымушаны быў ратавацца ўцёкамі з Вільні. Пасля гэтага след па ім загінуў. Магчыма, што яго злавілі ворагі праваслаўя і пазбавілі жыцця. Аднак не загінуў вялікі ўклад гэтага выдатнага дзеяча, абаронцы нашай веры.

Пасля Сцяпана Зізаніі засталіся не толькі ўспаміны пра яго палымяныя пропаведзі. Ён у 1596 г. у Вільні выдае сваё *Казанье св. Кирилла, патриархи иерусалимского о антихристе и знаках его з розширением науки против ересей розных.* У гэтым таленавітым творы знішчальнай крытыцы падвергнута асновы каталіцкай канфесіі, між іншым, аўтар даказвае, што антыхрыст з'явіўся на свеце ў асобе папы рымскага. Таму перайсці ва унію абазначае аддаць сябе ўладзе ворагу Госпада. Не дзіва, што гэту кнігу каталікі і уніяты сустрэлі ў штыкі, яе публічна рвалі і палілі, затое ў праваслаўных яна стала настольнай кнігай, яе славілі, яна перавыдавалася некалькі разоў, яшчэ ў канцы XVIII ст. выйшлі два яе выданні ў Гародні. *Казанье св. Кирилла...* выдавалася і чыталася ў многіх праваслаўных краінах. Давала ім зброю ў абароне праваслаўя, мабілізавала на барацьбу, умацоўвала ў бацькоўскай веры. Падобную ролю адыграла наступная кніга С. Зізаніі *Лист Іеремии, патриархи Константинопольского, напоминальный о втором пришествии Христове и о антихристе* (Вільня, 1596). Ён таксама напісаў *Катэхізіс*, але гэтую кнігу пад націскам каталіцкай іерархіі праклялі і спалілі па загаду здрадніка праваслаўя, мітрапаліта М. Рагозы, да нашага часу не захавалася ніводнага экземпляра несумненна каштоўнага твора. На прапаведніцкую і выдавецкую дзейнасць С. Зізаніі каталікі і уніяты адказвалі не толькі выгнаннем ды спальваннем яго твораў, яны пісалі розныя адказы: „Plewy Stephanka Zizanicy, heretyka z cerkwi ruskiej wyklętego" ці „Kąkol, który rozsiewa Stephanek Zizania w cerkwiach Ruskich w Wilnie". Але гэтыя бяздарныя зласлівасці толькі павялічвалі зацікаўленне творамі С. Зізаніі і слава яго расла і пашыралася.

**Мікола Гайдук**

# Сімфонія беларускай готыкі як сведка трывожных часоў

Царква Дабравешчання ў вядомым Супрасльскім манастыры была заснавана ў пачатку XIV ст. — але дакладных звестак няма. Паколькі вядома, што нутраны роспіс царквы паходзіў з 1557 года, — настолькі бясспрэчна, што ў гэты час будынак быў ужо скончаны, і такім чынам прыблізная дата яго вызначаецца як палова XVI стагоддзя. Калі возьмем план супрасльскай царквы, — дык знойдзем тут той самы асноўны прастакутнік, падзел на тры нефы, чатыры рагавыя вежы, ёсць тут пэўныя відазмяненні, але прынцып пакінуты той самы, як і ў ранейшых будынках, і толькі больш свабодна распрацаваны, выяўлены ў больш складаных формах, што сведчыць аб арганічным далейшым росце адпаведнага архітэктурнага стылю. План гэты мае большы прадоўжаны працяг з усходу на захад, пры значным звужэнні бакавых нефаў. Асновы рагавых веж маюць адносна меншыя памеры і больш шчыльна злучаны з асноўнымі мурамі будынка. Цэнтральная апсіда мае пяцісценную форму і вельмі масіўныя муры. Як бачым, план гэты досыць звычайны для беларускіх чатырохвежавых цэркваў. Усё тое новае і што было ўнесена ў супрасльскую царкву выявілася пераважна ў самай апрацоўцы гэтага плану і, асабліва, формы надворнай яго канструкцыі і аздаблення. Перш за ўсё, тут варты ўвагі асноўныя прапорцыі цэлай царквы. Базілікальная выцягнутасць будынка, пры адносна больш вузкіх фасадах, надае царкоўнаму помніку значна большую стройнасць. Вузкія фасады як быццам сціснуты тут паміж рагавых веж, што не зважаючы на іх гарызантальны падзел, адразу асабліва ўзмацняе асноўныя вертыкалі будынка. Захоўваючы абарончае сваё прызначэнне, вежы ў той самы час адыграли ўзгодненых тут з агульным характарам фасадаў і, нават, чыста дэкаратыўна трактаваны, асабліва ў верхніх сваіх частках. Роля іх у будынку яшчэ больш насілена значнай іх вышынёй. Усё гэта мае цесную сувязь з характарам перакрыцця: асноўны двухскатны дах перацяты папярочным перакрыццём, якое выходзіць на бакавыя фасады ў выглядзе асобных дадаткаў з самастойнымі франтонамі. На гэтым перакрыжаванні змешчана пятая вежа, якая выконвае канструкцыйную ролю цэнтральнага купала з фігурнай галоўкай і высокім шпілем. Яна здаецца быццам зусім нечаканым дадаткам да ўсталяванага чатырохвежавага тыпу. Але яна не мае характару выключна дэкаратыўнага элемента, бо яна арганічна звязана з нутраным ладам будынка, займаючы ў ім месца звычайнага купала, і тым самым значна відазмяняючы ўвесь падзел яго нутранай прасторы. Аснова яе вынесена ўгару з дапамогай цэнтральных слупоў і пакладзеных на слупы абарончых арак, і высунута праз грэбень даху ў выглядзе высокага двух'яруснага васьмісценніка. З нутранага боку вежа гэта мае купальнае скляпенне з роспісам асветленага праз вокны ніжняга яруса, а над скляпеннем знаходзіцца яшчэ адно памяшканне. З бакоў ён аздоблены дэкаратыўнымі нішамі і зубчатымі фрызамі, з гары ж пакрыты катовай галоўкай, якая нясе на сабе высокае складанае завяршэнне ў выглядзе аналагічных, паступова паменшаных васьмісценнікаў і галовак, закончаных шпілем. Вежа ўжо не выконвала абарончай ролі, і ў лепшым выпадку магла служыць за найбольш узвышаны ў будынку наглядальны пункт. У іншых частках царквы ў параўнанні да пакрыцця мы знаходзім значна менш складаную апрацоўку. Асноўнае месца займаюць тут моцныя гзымсы з аркатурай, дзе пераважна згуртаваны байніцы абарончага пояса, які выключна размяшчаецца на фасадах, не закранаючы рагавых веж. Ніжэй аркатуры па фасадах праходзяць чыста дэкаратыўныя вузкія фрызы з дробных зубчыкаў, аналагічных тым, якія ўжыты і ў перакрыцці. Сярэднія часткі муроў пакінуты без апрацоўкі і маюць толькі параўнальна нязначны лік вокнаў у крыху паглыбленых і злёгку арнаментаваных зубчыкамі нішах. На бакавых фасадах размяшчэнне вокнаў дакладна адпавядае нутранаму ладу. Увесь

# Галоўныя запаветы

*(Матф., 22:35-41)*

У 22-м раздзеле Евангелля паводле Матфея чытаем, як адзін са знатакоў Майсеевага Закону звярнуўся да Хрыста з пытаннем: які запавет найважнейшы? „Палюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, — адказаў яму Ісус. — Гэта ёсць першае і найбольшае прыказанне. Другое ж, падобнае яму: палюбі бліжняга твайго, як самога сябе. На гэтых двух прыказаннях грунтуецца ўвесь закон і прарокі". — „Ты сказаў праўду, — адказаў яму законнік, — што адзін ёсць Бог і няма іншага апрача Яго; і любіць Яго ўсім сэрцам, усім розумам і ўсёю душою, і ўсёю сілаю, і любіць бліжняга, як самога сябе, больш за ўсепаленні і ахвяры" (Марк, 12:32-33).

Разумны адказ пераканаў законніка. Ён ведаў, што яўрэйская рэлігія здамінаваная абраднасцю і вонкавай набожнасцю. Ён быў свядомы бясплённасці ахвярных цырымоній і супраціўляўся дарэмнаму праліванню крыві для змазвання грахоў. Любоў і паслухмянасць яму больш вартаснымі за ўвесь рытуал.

Калі падчас Тайнай Вячэры прагучэў заклік да ўзаемнай любові як неабходнай перадумовы прыналежнасці да хрысціянскай сям'і, Хрыстос назваў гэты запавет „новым". Антычны свет не ведаў ні міласэрнасці, ні літасці для слабейшых. У Спарце хваравітых дзяцей кідалі ў прорву. У Рымскай імперыі, не зважаючы на высокі ўзровень цывілізацыі і культуры, практыкавалася нявольніцтва. Нявольнікаў прадавалі і куплялі быццам быдла, а ўласнік мог нявольніка бяскарна забіць.

Запавет любові і міласэрнасці вядомы быў ужо ў Старым Запавеце, аднак стасаваўся перш за ўсё да суайчыннікаў. Калі Майсееў Закон абмяжоўваўся фармальнымі прадпісаннямі, Хрыстос заклікаў да поўнага перараджэння ўнутранага жыцця чалавека. Калі Закон забараняў забойства, Ісус заклікаў пераадолець усякі гнеў; калі Закон забараняў пралюбадзейства, Хрыстос заклікаў выгнаць з сэрца нячыстыя думкі. Ён адкідаў старое правіла „вока за вока, зуб за зуб". Зычлівасць павінна перамагаць жаданне помсты. Для сапраўднага хрысціяніна мала любіць таго, хто выклікае добрыя пачуцці. Ён прызваны любіць нават ворагаў.

Міжвольна ўзнікае пытанне, ці здольны чалавек ажыццявіць заклік да любові, ці не застаецца яна пустым гукам? Бачачы перад сабою ідэал, чалавек не знаходзіць у сабе сілаў дасягнуць яго. Іншае, моцнае прыцягненне прыгінае яго да зямлі і ён бяжыць за ілюзіяй зямных каштоўнасцей, праводзіць дадзены яму каштоўны час як сляпы. Ён гатовы задавальніцца „хлебам надзённым", звяртаецца да Бога з сэрцам поўным эгаізму і нeяк дзіўна гучыць заклік: „Будзьце дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш нябесны".

Аж надта добра ведаем, колькі рэлігійных войнаў, гвалтаў і зла правадзілася з хрысціянскімі лозунгамі на вуснах. З другога боку, колькі было самаахвярных людзей, якія заклік да хрысціянскай любові ажыццявілі поўнасцю. Адной з такіх з'яўляецца Матка Тэрэза з Калькуты. Працуючы настаўніцай у школе для багатых дзяўчат, яна штодзень бачыла на вуліцах бяздомных, галодных, уміраючых людзей. Пераадзеўшыся ў індускае сары, яна самотна рушыла на вуліцы Калькуты. З часам да яе далучыліся іншыя жанчыны. Яны падбіралі з вуліцы людзей, якіх чакала толькі смерць, даглядалі, лячылі не абмінаючы нават пракажоных. Заснаваны Маткай Тэрэзай Інстытут разросся ў вялікую ўстанову, якая нясе самарытанскую дапамогу ўсім, не зважаючы на канфесію і нацыянальнасць. За сваю самаахвярнасць у 1970 годзе яна атрымала папскую „мірную ўзнагароду Яна XXIII".

Матка Тэрэза добра зразумела навуку Хрыстову, што свет не патрабуе высакамоўных, пустых слоў, але сапраўднай дзейнай любові. Пакуль існуе свет, заўсёды будзе існаваць зло, сацыяльная несправядлівасць і пакуты. Адгэтуль практычная любоў да бліжняга, гэта жыццёвы экзамен для кожнага з нас. Празмерна прывязаныя да сваіх царкоўных традыцый і абрадаў, неадночы забываемся, з чаго будзем здаваць справаздачу на Божым Судзе. З таго менавіта, ці „накармілі галоднага, напаілі, таго хто прагнуў, ці прынялі вандроўца, ці апранулі голага, ці наведалі хворага і вязня". Без гэтага — усё іншае дарэмнае.

**а. Канстанцін Бандарук**

# Консул знаёміцца з Беласточчынай

Мінула тры месяцы, як у Беластоку працуе Генеральны консул Рэспублікі Беларусь Міхась Слямнёў (Генеральнае консульства ў Беластоку ахоплівае восем ваяводстваў). Ужо на першай сваёй прэс-канферэнцыі М. Слямнёў сцвердзіў, што адной з галоўных спраў лічыць грунтоўнае азнаямленне з тэрыторыяй, на якой будзе працаваць, з яе людзьмі, рэаліямі.

Перш за ўсё сустрэўся з ваяводскімі і гарадскімі ўладамі Беластока, з кіраўніцтвамі праваслаўнай і каталіцкай царкваў.

— Як чалавек праваслаўны, — паінфармаваў нас консул, — я пазнаёміўся з цэрквамі, манастырамі і святымі для праваслаўных мясцінамі. Два разы быў на Святой гары ў Грабарцы, першы раз — перад Спасам, другі раз — на свята Спаса. Я вельмі ўдзячны за гэта ўладыку Саве.

Генеральны консул удзячны архіепіскапу Саве таксама за тое, што пазнаёміў яго з манастыром у Яблачыне, царквамі ў Тарэспалі і Белай-Падляшскай. Не можа забыцца таксама пра пабыўку ў Супрасльскім манастыры, дзе змог азнаёміцца са станам спраў гэтага старэйшага ачага праваслаўя. Консул мае надзею, што неўзабаве справа манастыра вырашыцца канчаткова ў карысць яго законных гаспадароў.

Вядома, консул агледзеў усе праваслаўныя храмы ў Беластоку, прымаў тут удзел у праваслаўных рэлігійных святах.

Апрача таго, сказаў нам консул, прымаў ён удзел у шмат якіх мерапрыемствах, што наладжвае Беларускае таварыства. Быў на свяце беларускай культуры ў Беластоку, а таксама на фестывалі „Мастацкія сустрэчы Беласток — Гродна". Консул меў магчымасць пазнаёміцца з гарадамі і гмінамі Беласточчыны, беручы ўдзел у розных фэстынах. Быў у Гайнаўцы, Орлі, Нарве, Кляшчэлях, Сямяцічах, Бельску.

Разам з мясцовымі беларусамі святкаваў Купалле ў Белавежы, прыехаў на „Басовішча" ў Гарадок.

Двойчы ездзіў да дзяцей з Менска, якія адпачывалі сёлета ў Польшчы — першы раз у Плёскі, а другі — у Старыну.

Наведаў таксама Беларускі музей у Гайнаўцы.

Усё гэта консул робіць, не адрываючыся ад звычайных консульскіх будняў. То клапатлівыя справы з візамі, то трэба ехаць на граніцу Кузніца — Брузгі, бо там застрайкавалі шафёры грузавікоў, што занадта доўгія чэргі, то сустрэчы з дзелавымі людзьмі, праца якіх абапіраецца на польска-беларускія кантакты, то пытанні беларускага прадшколля ў Беластоку. Усё гэта справы, якія непасрэдна датычаць яго, консула.

Вось цяпер чакаюць гасцей з Беларусі, з Міністэрства адукацыі. А колькі ж яшчэ планаў на бліжэйшую будучыню! Міхась Слямнёў абавязкова хоча пабываць у беларускіх ліцэях — у Гайнаўцы і Бельску, пазнаёміцца з Свята-Троіцкай царквой у Гайнаўцы. Таксама збіраецца ў Крынкі, у госці да пісьменніка Сакрата Яновіча, і ў Валілы, да нашага мастака Лёніка Тарасэвіча.

Генеральны консул задаволены, што на працягу даволі невялікага адрэзка часу ўдалося яму наведаць столькі цікавых куточкаў, пазнаёміцца з цікавымі людзьмі. Вось зусім нядаўна пабываў ён у Рыбалах, у айца Рыгора Сасны.

— Калі я прачытаў інтэрв'ю з бацюшкам Р. Сасною, — сказаў ён, — я зразумеў, што гэта вельмі цікавы чалавек, і ўцешыўся, што надарылася нагода сустрэцца з ім.

Айцец Рыгор пазнаёміў консула з Касма-Дзям'янскай царквой у Рыбалах, у якой ён з'яўляецца пробашчам, расказаў пра яе гісторыю. Гутарылі таксама пра парафію і яе людзей, пра справы беларусаў і праваслаўных.

Спадзяемся, што цікавых людзей консул сустрэне на Беласточчыне яшчэ нямала.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**



*Айцец Рыгор, пробашч Касма-Дзям'янскай царквы ў Рыбалах, знаёміць Генеральнага консула Беларусі М. Слямнёва са сваімі "ўладаннямі". Злева: консул Міхась Слямнёў, прафесар Васіль Чачуга з Медыцынскай акадэміі ў Беластоку, айцец Рыгор Сасна і Яўгенія Слямнёва, жонка консула.*

цокаль будынка аддзелены яшчэ раз зубчатым фрызам і прыгожа аздобленыя пракладкамі жалезняковае цэглы ў выглядзе сеткаватага рысунка рамбічных фігур.

Незалежна ад апрацоўкі, самая канструкцыя алтарнай часткі надзвычай цікавая. Цэнтральная вялікая апсіда цалкам пануе тут над бакавымі. Апошнія маюць вельмі нязначныя памеры, як бы заціснуты паміж асяродкавай апсідай і ўсходнімі вежамі ў выглядзе маленькіх прыбудовак пацісненае формы. Такое пертварэнне візантыйскай алтарнай схемы дазваляе бачыць рысы ўзору драўлянага будаўніцтва. Вытрыманы ў плане падзел будынка на тры ўздоўжныя нефы застаўся тут толькі ўмоўнай схемай і не атрымаў сапраўднага выяўлення ў нутранай прасторы. Суцэльнасць гатычнага будынка тут ужо зусім страчана, хаця ў асобных частках ужыты складаныя і добра распрацаваныя гатычныя канструкцыі, што можа лічыцца вельмі характэрнай рысай у гэтым познім узоры беларускай готыкі.

На прыкладзе супрасльскай царквы мы можам сказаць, з якіх элементаў вырас гэты быццам бы зусім новы стыль. Візантыйская схема плана, гатычная цытадэльная канструкцыя, дэталі — з драўлянага дойлідства — усё гэта зліліся тут у адно гарманічнае цэлае, стылістычна цалкам закончанае. У гэтым сэнсе супрасльская Дабравешчанская царква, бясспрэчна, займае найбольш выдатнае месца ў шэрагу тых беларускіх чатырохвежавых будынкаў, дзе своеадменны архітэктурны стыль, які мы вызначаем тэрмінам „беларуская готыка", знайшоў поўнае сваё выяўленне. На жаль, усё сказанае можна толькі прачытаць або паглядзець на старых фатаграфіях, якія не перакажуць усёй стройнасці царквы. Хіба толькі, што фрэскі, якія фрагментарычна захаваліся, а цяпер знаходзяцца ў Беластоцкім музеі. Супрасльская царква ў час II сусветнай вайны была цалкам разбурана.

**Івона Марціновіч**




* * *

Самота стыне ў блакіце стрэх,
сплывае, і ўсмешкаю свяча
у кволасці адчуе смык надзеі.

Каханне прадстаіць прад Госпадам,
мацней Жыцця, спрадвечней Чысціні
і ўровень Веры.

Пяшчота атуляе, зберагае ўсё ў маленні.

* * *

Мне стукае сінічка ў акно.
Ты для мяне — я гэта адчуваю.
І, зварухнуцца баючыся, ўспамінаю —
не спала ноч, бо снілася табе.

Яднанне душ, сугучча іх і лучнасць
схавала амафорам ноч.
І золкі ранак, бы яе нашчадак,
прынёс мне зыркі боль тваіх тужлівых воч.

Тваёй усмешкай знічка ўсміхнецца,
апошняя, знікаючы з нябёс.
І ветрык доўга будзе лашчыць сэрца,
што ўспамін мне пра цябе прынёс.
Нябёсы мне ласкава ўсміхнуцца!..

**Алена Яскевіч**

# Канцэрт і... Квасьнеўскі спадабаліся бяльчанам

Апошні сёлетні беларускі народны фэстын адбыўся 10 верасня ў амфітэатры ў Бельску-Падляшскім. Прысутны быў на ім генконсул Рэспублікі Беларусь Міхаіл Слямнёў.

Выступіла дзевяць мастацкіх вакальна-музычных калектываў. Праводзілася перадвыбарчая кампанія кандыдата на пост прэзідэнта Рэчы Паспалітай Аляксандра Квасьнеўскага, які тут добра сябе зарэкамендаваў і выступленне якога было вельмі цёпла ўспрынята публікай. Канцэрт у Бельску — як і ўсе іншыя на папярэдніх сёлетніх фэстынах — вяла Валянціна Ласкевіч, сакратар Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Пры цёплым і без ападкаў надвор'і, у канцэртнай ракавіне выступілі: бельскія „Журавінка" ды „Дзявочыяноткі" (гэта калектывы, да якіх належыць таленавітая мясцовая школьная моладзь), „Васілёчкі" і „Маланка" з Бельскага дома культуры, хоры з Гайнаўскага і Гарадоцкага дамоў культуры, „Тыневічанкі" з Тыневіч-Вялікіх (Нарваўская гміна), „Рэаль" з Беластока ды „Чарамшына" з Чаромхі, а таксама саліст Генадзь Шэмет з нарваўскага „Пронару" ды жаночы дуэт з калектыву „Гарадніца" з Гародні (Рэспубліка Беларусь).

Усе выступленні самадзейнікаў падабаліся мнагалюднай бельскай публіцы. Сведчыла аб тым яе жывое ўсхваляванае рэагаванне, бурныя воплескі. Яна не адпускала са сцэны Генадзя Шэмета, а затым і калектыву „Рэаль", у якім ён спявае разам з братамі Кавальскімі. Доўгімі апладысментамі было ўспрынята гасціннае выступленне жаночага дуэта і гарманіста з „Гарадніцы". Наогул канцэрт быў вельмі ўдалы. Задаволіў ён густы ўсіх гледачоў.

Шкада, што ў падрыхтоўку гэтага вялікага культурнага мерапрыемства не ўключыліся прадстаўнікі бельскіх гарадскіх улад. Гэта прыкры факт. Не інакш успрынялі яго мясцовыя жыхары. Добра, што арганізатару дапамаглі фінансава спонсары, а сярод іх Гмінная спулдзельня, Спулдзельня вясковага транспарту, Мейскае ацяпляльнае прадпрыемства і іншыя, у тым ліку таксама і прыватныя фірмы.

У фэстыне ўдзельнічалі беларускія беластоцкія пісьменнікі: Віктар Швед, Мікалай Гайдук і Янка Целушэцкі. Яны падпісалі свае кніжкі. Іх запрасіла на аўтарскую сустрэчу настаўніца беларускай мовы мясцовага белліцэя.

Прадстаўнікі Беларускага музея ў Гайнаўцы — Міхал Голуб і Янка Ляшчук — збіралі грошы ў скарбонку на завяршэнне пабудовы гэтага аб'екта. Апрача таго яны вялі латарэю, у якой кожны латарэйны білет быў выйгрышным.

Да сустрэчы на беларускіх пленэрных фэстынах праз год!

**Янка Целушэцкі**

# Дэбют

Калісь кожны, нават Максім Танк, Янка Купала, Якуб Колас ці Максім Багдановіч былі дэбютантамі. Пачыналі ў мясцовых газетах. Мелі або 16 або 32 гады. Дрыжалі на думку пра ацэнку журналістаў ці крытыкаў. Калі паявіцца „Ніва" з першым вершам ці апавяданнем, тады прыходзіць трыумф, чытанне па некалькі разоў па складах загалоўка і свайго прозвішча, шпацыр з поўнай думак галавою і надзеяю, што чытачы пазнаюць добрае пяро. Шчаслівы і салодка-горкі момант дэбюту! Дык вось, накшталт дэбюту, паявіліся новыя формы і змест у карэспандэнцыі Мікалая Панфілюка. Гэты дэбют даўся яму лягчэй, быў чымсьці натуральным, і наш многагадовы карэспандэнт палакоміўся на літаратурныя трыумфы. Публікаваў ад малаых гадоў, збіраў усё ў шуфляду і ў 50 сваіх гадоў паспялеў і засыпае цяпер вершамі „Ніву". Лепш пісаць вершы, — падумаў наш нястомны Мікалай, — чым сварыцца з другімі. Шкада, што калі я быў у водпуску, не змог быць у Дубічах-Царкоўных. Думаю, што Мікалай дробнымі крочкамі прапхнецца праз шчыліну ў „Белавежу" і стане вялікім паэтам, як Віктар Швед. Вельмі тонка і падрабязна выяўляе свае думкі ў вершы „Янка Целушэцкі" у 35-м нумары „Нівы". Таксама ў „Ніве" ад 3 верасня не можа нахваліцца Алесем Барскім. Толькі каб хаця пасля не сварыўся. Кожнай асобе, прадстаўленай у „Ніве" і астатнім літаратарам-белавежцам жадаю моцнага пяра ды ўдалага жыцця. Таксам Мікалаю і ўсім іншым, якія хочуць пісаць у „Ніву", а пасля ў „Белавежу". Маю надзею, што новыя людзі пачнуць пісаць вершы, каб было больш беларускіх паэтаў у Польшчы. Новыя генерацыі будуць творчыя, адказныя, нічым не абмежаваныя, шчаслівыя. Братцы, бярыцеся за пяро, як Мікалай Панфілюк! А яму прысвячаю вось гэты верш:

З'явіўся не тлумачачы прыходу;  
Словы не былі зрэшты патрэбныя.  
Прыйшоў, прыносячы з сабою радасць,  
Асеў надоўж у „Ніве" і ўсе чытаюць  
Які ён мудры, што дурніцы не піша.  
Цяпер усё хваліць мудрымі словамі,  
А чытачы чытаюць і захапляюцца  
Ад здзіўлення, што ён змяніўся.  
Мікалай піша з жыцця вёскі  
І вершам нешта з радасцю пахваліць.  
Цяпер пазнаў, што лепш хваліць,  
чым сварыцца.

**Андрэй Гаўрылюк**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XXVII**

Цытую далейшыя фрагменты выказванняў майго бацькі аб яўрэях:

„Ну, калі хочаш, то я табе яшчэ магу тое-сёе сказаці пра жыдоў. Бачыш, я іх помню яшчэ з царскаго часу, з часоў акцябрскае рэвалюцыі, з санацыйнае Польшчы, з таго часу як былі ў нас саветы ад 1939 да 1941 року, з нямецкае акупацыі, ну і з пасляваеннаго часу. Калі гаварыці праўду, то я пачці што нічога пра іх ні магу сказаці после вайны. Бо вядомо, што іх немец выбіў пачці што ўсіх і яны прапалі з нашае зямлі. Праўда, спаткаў я пару жыдоў з Нараўкі і Нізбодкі, каторы якімсе чудом выратаваліся і дзесь так у 1945 або ў 1946 року прыязджалі ў Бандары і гаварылі са мною. Ну але што то быў за разгавор? Пыталі, чы ні знаю, дзе пахаваны іх жонкі і дзеці, а нават так яксе намекалі, чы я ні знаю хто грабіў іх дабро. А што я магу знаці аб гэтым. Ад нас да Нізбодкі, Нараўкі, Нарвы чы Ялоўкі то больш-менш 12—15 вёрст, то ведомо што ніхто з нашых вёсак ні ездзіў грабіці жыдоўскіх кварціроў, грабілі лясныя людзі. Зрэштаю, найлепшае дабро то забралі немцы. Але і нашым людзям то німало папало. Нібось, валачылі па вёсках і прадавалі і пасуду, і перыны, і убране. Жыды, калі іх немцы хаталі, верылі, што ўдасца ім пераждыці і вернуцца, і золато хавалі. Ну, а некаторы нашые людзі то да гэтаго золата дабраліся. Ну магу табе расказаці, што людзі нашчот гэтаго гаворат пра М.Г., каторы разам з савецкімі парцізанамі так пачысціў жыдоў, што, гаворат, пару шапок золата нагроб... Але аб гэтым то я гэтым жыдам нічого ні сказаў, на чорта мне па судах валачыцца.

Ну, а што касаецца царскаго часу, то жыды нашы былі велікаю бедотаю. Удзержывалі карчмы. От і ў нас у Перавозе была карчма, у каторай усе мужыкі з Бандароў, з Рыбакоў, з Лукі, з Слабодкі дзень і ноч сідзелі. Панятно, ні ўсе, але многі то з карчмы ні вылазілі. Ну ў карчме то і хрысціны і мерліны спраўлялі. У большасці то жыды былі рэмесленікамі. Па-моему то яны добрымі былі і шаўцамі, і краўцамі, і рымарамі, і кажушнікамі. Жыд мог ашукаці на цане, але на качэстве тавару то ні ашукоўваў, рабіў усё так як трэбо. Ні знаю, чы ты помніш, як я табе ў Ялоўцы ў Бэрка купляў скураны пастолікі. Жыд адразу паказаў дзірку на падошві і прадаў намнога таней, бо бачыш пасталы былі з бракам. Але захвальваў! Усё гаварыў, што хваціт гэтых пастолікаў аж да вяселля. Ну, але гэто ўжо было пры санацыйнай Польшчы, так што пры цары то нашы жыды былі тут бедотаю. А от у санацыйнай Польшчы то ўжэ паявіласё много багатых жыдоў. Ну, перад усім то Грухман. Ён паў Белавежскай пушчы спляжыў. Сотні а можэ і тысячы людзей у яго працавало. І рэзалі пушчу, і вывозілі да рэчкі, і сплаўлялі і гналі пасы ў Страблю або Тыкацін. Трэбо сказаці, што Грухман плаціў людзям нікепско. Быў гэто вялікі багач. Много было жыдоў дахтарамі. Ты знаеш, гаварыў мне адзін чалавек, што цяжко захварэў на язву жалудка. Ну і яму настроілі беластоцкаго жыда дохтара. То ён да яго цэлы рок ездзіў і той ад яго ўсе грошы выцягнуў, але язвы ні вылечыў. Ну і калі гэты чалавек заехаў да гэтаго жыда і сказаў, што ўжэ больш да яго ездзіць ні будзе, бо астаўсе без грошэй, то тады той жыд падышоў да яго і сказаў: „Дам табе астатню раду. Пасей много льну, нарабі много льняного алею і пі штодня наташчак па дзве шклянкі ўдзень. А кроме гэтаго лі гэты алей і ў сырую капусту, і ў суп, і ўсюды, дзе толькі можно".

Ну і што ты думаеш? Гэты чалавек сказаў мне, што піў гэты алей цэлы рок і хваробу як рукою адняло. От бачыш, які жыд, халера, хітры. Грошы выцягнуў, але ўрэшце аказаўся чэсным чалавекам, бо ўсё ж такі парадзіў як хваробы пазбавіцца. А хто яго, зрэштаю, знае, можэ ён сам напачатку ў жыдавэ лекарство верыў, а калі ні памагло, то тады дарадзіў такі просты спосаб.

Значыцца, перад вайною паявіліся багаты жыды, але і бедоты было поўно. Ездзілі або і хадзілі па вёсках, усяке барахло куплялі, найгоршы ганучы, шэрсць свіную, валасы з конскіх хвастоў і грываў. Усяке барахло забіралі і штось там крыху плацілі. Ну то мужыкі былі задаволены, бо пару грошай жыд даваў".

**Алесь Барскі**

# Ёзік з вёскі К.

*(быль)*

У майго знаёмага маладога гаспадара ў вёсцы К. было досыць многа жывіны. Дзве каровы, два падсвінкі, сем курак ды певень і тры сабакі. Малако кароў утрымлівала пры жыцці гаспадара і самую гаспадарку, з парасят Ёзік чакаў мяса і сала, яйкі служылі за закусь, а сабакі пільнавалі ўсяго маёнтку і таго, каб Ёзіка, калі ўпадзе пад плотам ад алкагольнае знямогі, разам з дабыткам не вынеслі зладзеі. Праўда, па падворку і па-за ім мог бегаць толькі рабрысты чорны Ас, а сівая Аза з касцістым азадкам і рабы куцы Рэкс яхкалі на ланцугах — Аза пад курнікам (начавала ў старой бочцы без донца), а Рэкс — у кутку дрывутні (спаў на пілавінні ды стружках, счарнелых ужо ад дажджоў і снегу; нябожчык Ёзікаў бацька Колечка калісьці займаўся сталяркай). Ас, бывала, зловіць якога звярка ў полі ці ляску, адбярэ мыш у ката, хлебане вады з рова ці памыяў у кухні, калі яны ёсць, папросіцца есці ў суседкі, а Аза і Рэкс цудам трымаліся пры жыцці. У найгоршую спёку не даў ім гаспадар ні кроплі вады, а елі яны тое, што траплялася на дне свінога вядра, калі гаспадар не забыў ім яго кінуць. Я дзіву даваўся кожны раз, калі заязджаў у вёску К. — Ёзікавы сабакі ўсё існавалі, як вечныя статуі на напружаных ланцугах. Усё мянялася ў вёсцы, умiралі людзі, валіліся хаты, а Аза і Рэкс усё дыхалі.

Ас хадзіў жаліцца да суседзяў, найчасцей да цёткі Надзеі, якая шкадуе ўсяго жывога, Божага стварэння. На жаль, не магла запрасіць Аса жыць да сябе — у яе ёсць свой сабака, стары Бурка-пенсіянер. Раз Асаў гаспадар, убачыўшы, што сабака есць костку за цётчынай брамкай, усчаў скандал на ўсю вёску: якім правам бабуля падкрадае чужога сабаку!? Цётка Надзея загаласіла, уся ў слязах: „Дай, чалавеча, есці жывіне, ён жа стораж, пільнуе тваё бацькаўшчыны! І жыцця свайго не марнуй, не пі! Хто ж гэта бачыў такое, такі малады, харошы хлопец!.." Накінуўся Ёзік на бабулю, схапіў яе за каўнер: „Не твая справа, бабо, што раблю я і мае сабакі! П'ю за сваё. Маё жыццё — не ваша справа! Хай і згіну, то не вы пойдзеце ў магілу! А маё хай прападае, але з мае рукі!"

Апошні раз я быў у верасні ў вёсцы К. Ас ужо не бегаў па вуліцы. Казалі, пераехаў яму трактар лапы, трэба было дабіць. Даканаў яго гаспадар калком па галаве. Рэкса забрала Ёзікава сястра ў мястэчка, там у яе свой дом, дзеці — будзе малым забаўка, Рэкс лагодны, ласкавы, толькі лякаецца крыку, і тады кідаецца кусаць. А Аза павесілася — з бочкі ўскочыла на сліўку, што расце ля курніка; там вісела на галінках пару слівак, хацела дастацца да іх, бо ўсе, што пападалі на зямлю, з'ела разам з костачкамі. Ланцуг пераві́с цераз галіну, сучка пакаўзнулася, так і закончыла сваё невясёлае жыццё. Праз тыдзень заўважыў яе сусед, зняў ды пахаваў.

Ёзіка доўга не было. Раней прадаў кароў і свіней, парэзаў птушак. Казалі, за мяжою быў, на Захадзе думаў шчасця шукаць, у Нямеччыне.

— А каму там такія трэба! — махае рукою дзед Аноп. — То ж па-нямецку ні гу-гу, ні рабіць каб што ўмеў. Каб пастараўся, то і ў нас якась жыў бы. Каб быў на якую бабу добрую нараваўся, то быў бы з яго чалавек...

— І пільнаваць гыньдзе няма чаго. Што тут украсці! Колечка ў магіле бакі сабе намуляў, варочаючыся — так сыночак змарнаваў гаспадарку і сваё жыццё! — уздыхае цётка Надзея.

З'ехаў кудысьці наш знаёмы трыццацігадовы Ёзік, Мікалаеў сын, з вёскі К. Знік, не дае знаку жыцця. Што ён цяпер робіць, з чаго жыве?.. Можа, бачылі вы яго недзе? З хаты нічога цёплага не ўзяў, а зіма ж не за гарамі...

**Міра Лукша**

## ПАРНАС
Чытальніцкая літсуполка на негарантаваных паях

### У клетцы

Жыць у клетцы бестурботна —
Непатрэбна мова родна.
Кінуць костку пасмактаць,
Каб меў сілу пабрахаць,
Пана свайго выхваляць
І пяту яму лізаць;
Увесь час жыць пад дыктоўку,
На шыі насіць вяроўку.
Бо як лопне клеткі сталь
Дык не выручыць маскаль,
А вяроўка выручыць,
Каб па клетцы не тужыць.
У клетцы вучаць аднаго:
Верыць у ідала свайго.
Назва яго — камунізм,
Маркс і Ленін, сталінізм.
У клетцы мусілі вучыцца
Ідалам верна маліцца.
Давалі ім крыху хлеба,
Каб гібелі так як трэба.
А паслушных выпускалі
На падворак і давалі
І кватэры, і машыны,
І шыкоўны лімузіны.
І ў беларускім народзе
Забылі зусім аб свабодзе:
Лепш у клетцы, у нястачы
Слухаць адны перадачы
Што, маўляў, у нас свабода,
На наш строй усюды мода,
Запануе ён над светам —
Будзе шчасце, канец бедам.
Дык нядрэнна гэта казка,
Што паверыў нават Сашка.
Нават чалавек набожны
Мог паверыць у гэта кожны.
Клетку часта папраўлялі
Каб звяры не паўцякалі.
Хоць нядрэнна там жылося,
Ды ў канцы ўсё растраслося.
Звери-людзі драпанулі,
Сваёй волі смак пачулі,
Дэмакратыю, свабоду,
Што не бачылі ад роду.
Цяжка ім змірыцца з гэтым
Бо няма шчаслівай мэты.
Пан-таварыш ужо не правіць,
А край родны пара славіць,
Брацца за работу дружна,
Барацьбу вясці ўсім мужна
З тым, што нам вяроўку віў,
Ад вякоў ваду муціў.

**Мікалай Панфілюк**

## Белавежскія „най...”

У Белавежы шмат гадоў дзейнічае метэаралагічная станцыя II ступені. Яна рэгіструе ўсе асноўныя метэаралагічныя даныя, якія перш за ўсё выкарыстоўваюцца навукоўцамі ў іх рознабаковых даследаваннях, распрацоўках.

Абапіраючыся на штодзённыя рапарты станцыі, я падабраў пару метэаралагічных цікавінак за апошнія 68 месяцаў (студзень 1990 г. — жнівень 1995 г.).

Найбольш цёплымі днямі за ўвесь гэты час былі 29 жніўня 1992 г. (34,7°C) і 31 ліпеня 1994 г. (34,6°C), найбольш халодным днём аказаўся 1 люты 1991 г. (-24,4°C).

На працягу ўспомненага перыяду Белавежа атрымала 3 323,3 мм ападкаў, значыць у сярэднім 48,9 мм месячна. Найбольш сухім месяцам аказаўся ліпень 1994 г. — ападкаў было ўсяго 5,8 мм, найбольш жа мокры месяц, гэта чэрвень г.г. — 115,1 мм ападкаў. Найбольш дажджлівы дзень — 10 ліпеня г.г., калі выпала аж 62,7 мм дажджу.

Найраней снег паявіўся ў 1990 г. — 21 кастрычніка, найдаўжэй жа ляжаў у 1995 г. — да 29 сакавіка. Найтаўсцейшае снежнае покрыва занатавана ў днях 18—20 лютага 1991 г. — 25 см.

**Пётр Байко**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца, што знаходжуся я на вёсцы, у сваіх бацькоў. Старыя ўжо яны, за восемдзесят ім. Бацька яшчэ трымаецца зусім добра, але маці нездаровіцца. І вось я і нехта яшчэ, хто — не памятаю, на панадворку стаім. Я бачу — ляцяць з неба дзве лялькі, ужо нізка, ды рукамі і нагамі варушаць. Я кажу: „Нейкі знак з неба нам даецца”. І тут жа ляціць нешта, ні то шар, ні то шток, але не такі круглы. Страшнае, вогненнае і падае непадалёк хлявоў. Я крычу: „Пажар будзе!” Гэта ж звалілася каля хлявоў. Са страху прачнулася.

Астроне, пэўна нешта кепскае абазначае гэты страшны сон. Прашу, разгадай як найхутчэй.

**Вера**

Вера! А ведаеш, быццам бы і нічога добрага не будзе. Перш за ўсё тыя лялькі. Лялька наогул абазначала б дарэмную працу, непатрэбныя клопаты. Але ж глядзі ты, твае лялькі ажылі неяк, ляцелі з неба ды яшчэ рукамі і нагамі варушылі. І ты сказала, што з неба даецца нейкі знак. Ну, і не памылілася. Гэты знак папярэджвае цябе перад нейкай пагражаючай табе небяспекай.

А бач жа, за гэтымі лялькамі зараз ляцела нешта вогненнае і страшнае. Я думаю, што гэты сон на хваробу. Мо ты або нехта блізкі табе захварэе ад моцнай прастуды.

**Астрон**

## Варта ведаць, што...

...верасень — дзевяты месяц каляндарнага года, пачатак восені. Беларуская назва, як украінская, польская, паходзіць ад верасу, расліны, якая цвіце ў канцы лета і ў пачатку восені. Руская назва сентябрь запазычана з лацінскага september — сёмы месяц у старажытнарымскім календары. З канца XV ст. і да 1700 г. у Расіі пачатак года лічыўся з 1 верасня.

У пачатку трэцяй дэкады месяца Сонца праходзіць праз пункт асенняга раўнадзенства і тады даўжыня дня і ночы аднолькавыя. Сярэднямесячная тэмпература паветра 11,6°C. У канцы другой дэкады тэмпература паветра пераходзіць праз 10°C і паніжаецца.

Паступовае паніжэнне тэмпературы спрыяе зніжэнню вільготнасці паветра. Больш паловы дзён у верасні пахмурных, 6—10 ясных, 3—4 дні бываюць без сонца. Бывае працяглая імжыстая непагадзь.

***

... восень падзяляецца на падсезоны: 1-ы цягнецца ад канца жніўня да канца верасня, супадае з паяўленнем першых спелых пладоў антонаўкі і выспяваннем ягад рабіны. Яго канец характарызуецца поўнай асенняй афарбоўкай клёну. Адлятаюць птушкі.

2-і падсезон — залатая восень, пара самай густой асенняй размалёўкі лісця, масавага лістападу. Жывёлы заканчваюць падрыхтоўку да зімоўкі. Часцей здараюцца замаразкі не толькі на глебе, але і ў паветры. Канец падсезона супадае з поўным агаленнем клёну.

3-і падсезон — позняя восень. Сярэдняя сутачная тэмпература праходзіць праз 0°C. Большасць дрэў і кустоў застаецца без лісця, спыняецца вегетацыя ў азімага жыта. Выпадае першы снег.

**апр.(яц)**



## Пад якім сузор'ем

ВАГА, 23 верасня — 23 кастрычніка. Мужчына, народжаны пад знакам Вагі, мае незвычайную інтуіцыю ў вядзенні гаспадарчых і грашовых спраў. Бывае вельмі асцярожны і лёгка настройваецца супроць паасобных людзей. І мужчына, і жанчына з-пад знака Вагі найлепш сябруюць з людзьмі з-пад свайго знака і Блізнятаў.

Жанчыне варажбітка прадказала асабліва добрыя якасці: прыгажосць, гаспадарлівасць, мілы характар, ахвоту дапамагаць людзям, таварыскасць. Не разумее яна экстравагантнасцей, малаталерантная ў адносінах да розных дзівацтваў і праяваў іншасці.

Шчаслівы дзень — пятніца, месяц — красавік, колер — блакітны, каштоўны камень — апал, кветка — гваздзіка.

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 506. Ахвяраванні ўдзельнікаў Купалля ў Белавежы 8.07.1995 г. | — 480,34 зл. |
| 4 507. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) | — 40 зл. |
| 4 508. Віталь Валюкевіч (Беларусь) | — 10 зл. |
| 4 509. Андрусь Жылкін (Беларусь) | — 10 зл. |
| 4 510. Ананімны ўзнос | — 200 зл. |
| 4 511. Ахвяраванні ўдзельнікаў беларускага фэстыну ў Кляшчэлях | — 127,84 зл. |
| 4 512. Ахвяраванні ўдзельнікаў беларускага фэстыну ў Сямяцічах | — 266,99 зл. |
| 4 513. Ірэна Парфянюк (Гайнаўка) | — 10 зл. |
| 4 514. Ахвяраванні сабраныя ў час вандроўкі тэатра „Жывое слова” ў гміне Нараўка 20—25.08.1995 г. пад кіраўніцтвам Янкі Морданя | — 190,80 зл. |
| 4 515. Васіль Дамброўскі (Гайнаўка) | — 5 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.**

# КРЫЖАВАНКА

**Гарызантальна:** 3. завостраны кавалак дрэва або металу, 8. вадзяны вал, 9. дзяржава ва Усходняй Афрыцы, 10. нядаўняя назва Беларусі, 11. англійскі адмірал і карсар (1540—96), 13. гандлёвы пасрэднік, 15. прыстасаванне для змотвання нітак, 16. перавозіць грузы цераз рэчку, праліў, 20. Паўднёва-заходняя частка Усходняга Туркестана між Цянь-Шанем і Тыбетам з аазісам у Кашгары, 22. вораг прагрэсу, 23. вывяржэнне змесціва страўніка праз рот, 27. часовы захоп войскам чужой тэрыторыі, 29. паказвае фокусы, 30. лісцевае дрэва, 31. магутная птушка, 32. французскі матэматык, фізік і астраном (1749—1827), 33. лёгка празрыстая матэрыя, 34. мангола-татарскае войска.

**Вертыкальна:** 1. бурная спрэчка, 2. знак ганьбы, 4. хуткая птушка, 5. слаўны фінскі лёгкаатлет міжваеннага перыяду, 6. пасудзіна для піцця спіртных, 7. супрацоўнічаць у чымнебудзь, 12. паўвостраў між Ахоцкім морам і Ціхім акіянам, 14. іншасказальнасць, 16. грузінскі порт, 17. аправа для партрэтаў, 18. драўляны хамут, 19. дзялянка высечанага лесу, 21. арганічнае рэчыва, якое змяшчае ў сабе азот і вызначаецца моцным фізіялагічным дзеяннем. 24. сваім з'яўленнем нагадвае прыбліжэнне чаго-небудзь, 25. штучны праход пад зямлёй, 26. вайсковае або піянерскае аб'яднанне, 27. небяспечная марская рыба, 28. летні тып жылля ў Якутаў.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 32 н-ра:**

**Гарызантальна:** карсар, сарока, какава, брак, рада, цэнтралізм, кант, Ахен, гітара, гарэза, Матфей.

**Вертыкальна:** калібр, арка, сава, калода, кантральта, акцэнт, размах, Калуга, Енісей, Гіза, рама.


**Ніва**

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.**
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**ПРА МІХАЛА МІХАЛЫЧА, ДЭПУТАТА І ЧАЛАВЕКА**

## Лесавічок

Міхал Міхалыч паехаў па грыбы. Набіраў поўны кошык баравікоў, падасінавікаў і лісічак. Радасны вяртаўся дамоў, як раптам сустрэў лесавічка. Той агледзеў здабычу Міхала Міхалыча і сказаў, што ўсе гэтыя грыбы ядавітыя — радыеактыўныя. І параіў іх выкінуць. Міхал Міхалыч, чалавек паслухмяны, так і зрабіў.

З таго часу Міхал Міхалыч па грыбы не ходзіць. Асцерагаецца зноў сустрэць добрага лесавічка.

## Палітычная погляды

Неяк Міхал Міхалыч прагульваўся па беразе ракі і знайшоў залаты чырвонец. Уважліва разглядаючы манету, ён убачыў на ёй выразны профіль імператара і самадзержца Усерасійскага, цара Польскага, Вялікага князя Фінляндскага Мікалая ІІ-га і, шырока размахнуўшыся, шпурнуў у ваду, таму што ніколі не быў манархістам.

## Пакупка

Аднойчы Міхал Міхалыч купіў бляшанку тушонкі з ялавічыны, але, адкрыўшы яе, убачыў замест тушонкі баклажанавую ікру. Цяпер ён заўсёды купляе баклажанавую ікру.

**Міхаіл Цыманаў**
*(„Вожык")*








*Так парламенцкі крызіс у Беларусі пракаментаваў у менскай газеце „Рэспубліка" мастак* **Мікола Гіргель.** *Прыгадаем, што паўнамоцтвы старога Вярхоўнага Савета скончыліся ўжо ў маі. Новы парламент не ўдалося яшчэ выбраць, а дадатковыя выбары наперадзе. Старшыня ВС Мячэслаў Грыб намерваецца працаваць са старым парламентам да часу абрання новага. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка не прызнае старога Вярхоўнага Савета, а лаяльныя прэзідэнту дэпутаты складаюць свае паўнамоцтвы або адсутнічаюць на пасяджэннях, каб паралізаваць яго дзейнасць.*

## З народнага

— Скажыце, Маня, ці вы кахалі калі-небудзь?
— А ці ж гэта навіна?
— Ну і як жа, быў раман?
— Не, Хведар.

* * *

— Ох, як я стамілася, пакуль учора ў лесе назбірала столькі грыбоў!
— А каб ты ведала, як я намучыўся, пакуль сёння іх паеў!

*Падборку зрабіў* **(яц)**



## Прыпеўкі

Дзяўчыначка чарнаброва
Паехала ў лес па дровы,
Зачапілася за пень
І стаяла цэлы дзень.

Сколькі Богу ні маліўся,
У святыя не папаў, —
За курносенькай ганяўся,
Даўганосую узяў.

* * *

Я і стар — не магу,
Я і слаб — не магу.
Як зайграюць лявоніху,
Ашалеўшы бягу.

Во цяпер мне пагуляць,
Пакуль грае скрыпка:
Ручкі, ножкі не баляць,
Сярэдзінка гібка.

*Падборку зрабіў*
**Янка Целушэцкі**

## Смех у санаторыі
**або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка**

Прыходзіць баба да лекара:
— Пан доктар, не магу адвыкнуць ад курэння.
— А ці прабавалі вы жавачку?
— Прабавала, але не гарыць.

* * *

Прыходзіць баба да лекара з дачкою:
— Стань, Аня, проста, каб пан доктар пабачыў, якая ты крывая.

* * *

Баба ўмірае, а каля яе лекар:
— Пульс ваш у норме, сэрца і лёгкія ў парадку, тэмпература нармальная...
— Дзякуй Богу! Значыць, уміраю здаровая.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:
— Пан доктар, часта здараецца мне чуць галасы, даходзячыя невядома адкуль.
— А калі гэта здараецца?
— Як размаўляю па тэлефоне.

* * *

Прыходзіць баба да лекара. Пасля абследавання лекар дыягназуе:
— На вашы болі ёсць адно лякарства: мужчына.
— Дык займіцеся мною.
— Я, даражэнькая, лекар, а не лякарства.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:
— Ой, дрэнна з вамі: плеўроз, бранхіт, гастрыт... Колькі вам гадоў?
— Сорак два.
— Да таго яшчэ і склероз!

* * *

Прыходзіць баба да лекара:
— Пан доктар, сабакі мяне пакусалі.
— У якім месцы?
— Каля ветэрынарнай бальніцы.

* * *

Прыходзіць баба да лекара, а лекар да яе:
— Выходзьце хутчэй адсюль, бо ўжо анекдоты пра нас разказваюць.

* * *

Гапка ляжыць у шпіталі. Прыходзіць да яе лекар:
— Ці быў ужо стул?
— А круціўся тут якісь перад вамі, але не прадставіўся.



Дарагое Сэрцайка! Вам, маладым людзям, можа смешным будзе тое, што напішу. Але было так, як было. Гадоў трыццаць назад якраз была я ў гэтым веку. А хлопцаў у нашым мястэчку — ні на каліва. Параз'язджаліся людзі ў пошуках шчасця.

І вось паявіўся ў нас малады чалавек, які ўсім дзяўчатам адабраў сон. Такога прыгажуна тут яшчэ не было. Прыехаў з далёкай мясцовасці, бо ён знайшоў менавіта ў нас добрую працу. Высокі, з цёмнымі валасамі, з асляпляльнай усмешкай (на шчоках рабіліся ямачкі). Хадзіў у прыгожым каротнім кажушку. Якраз была зіма.

І мне ён адразу спадабаўся. Раздругі сустрэла я яго ў кампаніі, і мае погляды на гэтага чалавека радыкальна змяніліся. Паслухала я, што і як ён гаворыць, убачыла яго манеры — і яго прыгажосць у маіх вачах пачала гаснуць.

Калі хацеў камусьці спадабацца, прыміляўся, вядома, і быў далікатны. Аднак жа, калі нехта яму ў нечым не дагадзіў, дык адразу вылазіў з яго надта просты чалавек, а часамі нават хам. Нас, дзяцей, у бацькоўскай хаце было пяцёра, але ніхто ніколі не гаварыў ні такім павышаным тонам, ні такімі брыдкімі словамі. І маці, і бацька вучылі нас шанаваць годнасць іншага чалавека. Я ўжо мела свой погляд на гэтага маладога чалавека, і мне перасталі імпанаваць ягоныя залёты. У яго прастацтве я бачыла згубу для дзяўчыны. Тым не менш мае сяброўкі аж шалелі за ім. Я ім не пярэчыла, але ў сваіх думках скрэсліла яго як кандыдата на мужа.

Скажу праўду: мы спатыкаліся тут і там — мне падабалася, што дзяўчаты зайздросцілі мне. Вядома, такі прыгожы хлопец! Я нават любіла быць у кампаніі з ім, бо тады не глядзеў на нікога, а толькі трымаў маю руку і пазіраў мне ў вочы. Ён увесь аж гарэў.

Аднойчы мы пайшлі на даволі доўгі шпацыр. Ішлі-ішлі, трымаючыся за рукі, і дайшлі да лесу. Якое хараство! Елкі стаялі, абсыпаныя снегам, быццам у задуменні, быў лёгкі мароз, свяціла зімовае сонца. Нешта цёплае-цёплае ўлілося ў маю душу, я прытулілася да яго і... нашы губы зліліся ў пацалунку.

Ніколі не прыйшло мне ў галаву, што можа стацца тое, што сталася. Ён схапіў мяне ў абдымкі, паваліў на снег і згвалтаваў, нягледзячы на тое, што я з усіх сіл баранілася і вырывалася з яго рук.

Што ж мне было рабіць? Маці выхавала сваіх дачок у духу нявіннасці. Дзяўчына мае выходзіць замуж, паўтарала яна, будучы „чыстай", бо інакш муж цэлае жыццё будзе папракаць яе, што „цягалася", калі была дзеўкай. А мо ўжо ніхто наогул не возьме... Хлопец гэты аж гарэў, каб я згадзілася на шлюб, дык што ж мне было рабіць? Хутка згадзілася я выйсці за яго замуж і неўзабаве мы згулялі вяселле.

Толькі маці часамі глядзела на мяне сумнымі-сумнымі вачыма. Не магла знайсці лепшага? — здавалася, пытала.

Хаця вырасла ў нас чацвёра здаровых дзетак, ніколі я свайго мужа не пакахала. А што была з ім усё жыццё? Дык мужа ж не кідаюць... А ён не хацеў нават глянуць на іншую. Відаць, адчуваў мой холад і гэта яго яшчэ больш трымала пры мне. Усё хацеў мяне мець для сябе, цэлае жыццё праследуючы мяне сваім каханнем.

Сёння мая справа можа паказацца маладым смешнай, але тады, у малым асяроддзі... Ці разумееш ты мяне, скажы?

**Надзея**

Надзея! Пэўна, што хачу зразумець. Сёння можна было б развесціся, не радзіць дзяцей ад некаханага чалавека, урэшце можна было б (і трэба было б) наогул не выходзіць за яго замуж. Цябе падвяла залішняя даверлівасць, наіўнасць. Ты думала, што калі чалавек цябе кахае, дык не будзе ў стане зрабіць табе крыўду. А гэты чалавек пазбавіў цябе дзявоцтва без тваёй згоды і ахвоты. Дробны пацалунак асмеліў яго да такой ступені. А мо проста падумаў, што гэткім чынам зможа цябе прымусіць да таго, каб выйшла за яго замуж! Відаць, добра ведаў тваю паставу.

Ой-ой! Дзякуй Богу, што тыя часы мінулі і, маю надзею, ужо не вернуцца.

**Сэрцайка**